
Дні юдаізму ў Дуброве →3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Мікалай Мураўскі →4

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 04 (3272) Год LXIV

Беласток, 27 студзеня 2019 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)





❖Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Калядаванне ў міжнароднай грамадзе

■ Супольна калядавалі дзяўчаты розных груп Студыі песні ГДК

У мінулым па нашых вёсках маса-ва калядавалі дзеткі і моладзь. У кампаніі радасна яны правод-зілі святкаванне Хрыстовага Нараджэння. Калядоўшчыкаў з аднарадавымі або двухрадавымі звёздачкамі, якія праслаўляючы Божае Нараджэнне, прыносілі ў хаты радасць і падымалі святочны настрой, гаспадары частавалі святочнымі харчамі, а з часам паявілася мода дорыць ім грошы. Пазней дарослыя сталі калядаваць з мэтай сабраць грошы на ўпрыгожанне цэркваў. Здаўна спяванне калядак адбываецца таксама ў цэрквах. У Гайнаўскім доме культуры арганізаваліся павятовыя і ваяводскія агляды калектываў дарослых калядоўшчыкаў. З канца мінулага стагоддзя ў Гайнаўскім белліцэі сталі ладзіць конкурс для школьнікаў. З 2003 года агляд у Гайнаўскім доме культуры пераўтварыўся ў Фестываль «Гайнаўскія сустрэчы з праваслаўнай калядкай». Сёлета (10, 11 і 15 студзеня) фестываль прайшоў у міжнароднай грамадзе, з удзелам калядоўшчыкаў з Польшчы, Беларусі, Украіны, Францыі і Іспаніі.

Падчас конкурсных слуханняў Фестывалю «Гайнаўскія сустрэчы з праваслаўнай калядкай» 10 і 11 студзеня запрэзентавалася ажно 37 груп калядоўшчыкаў, якія выступалі ў традыцыйнай зімовай вопратцы або ў святочных касцюмах, многія выйшлі на сцэну са звёздачкамі. Кожны калядоўшчык, а было іх каля 700 чалавек, атрымаў індывідуальны падарунак з ласункамі. У гала-канцэрце, які адбыўся 15 студзеня, прысутнічалі, між іншым, прадстаўнікі галоўных спонсараў каляднага мерапрыемства: настаяцель Свята-Троіцкага прыхода ў Гайнаўцы і заадно старшыня журы, мітрафорны протаіерэй Міхаіл Негярэвіч, стараста Гайнаўскага павета Андрэй Скепка, бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч, а таксама праваслаўныя свяшчэннікі, ваяводскія, павятовыя і гарадскія радныя, дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч і дырэктары мясцовых школ. Вялі гала-канцэрт дырэктар Дэканальнага інстытута праваслаўнай культуры ў Гайнаўцы протаіерэй Павел Стэрлінгаў, які кіруе падрыхтоўкай і арганізацыяй «Гайнаўскіх сустрэч з праваслаўнай калядкай», і Каміль Васілюк, член журы. Перамож-цам паасобных катэгорый былі ўручаны дыпломы і ўзнагароды.

— Арганізуючы «Гайнаўскія сустрэчы з праваслаўнай калядкай» мы прадаўжаем традыцыю калядавання, а перш за ўсё са сцэны прапагандуем калядныя традыцыі сярод дзетак і моладзі. Праз калядкі мы знаёмімся з гісторыяй хрысціянства і нашымі духоўнымі каштоўнасцямі. Захоўваем нашы традыцыі, ведаючы таксама, што падчас конкурснага агляду важнай справай з'яўляецца прэзентацыя вакальных здольнасцей калядоўшчыкаў. Нас радуе, што большае колькасць удзельнікаў і павышаецца мастацкі ўзровень выканання калядак у час нашых сустрэч, — распавёў протаіерэй Павел Стэрлінгаў.

Ладзяць сустрэчы Дэканальны інстытут праваслаўнай культуры і Аб'яднанне «Любіцелі царкоўнай музыкі», якія дзейнічаюць пры Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы і Гайнаўскі дом культуры, з дапамогай гайнаўскага аддзялення Брацтва праваслаўнай моладзі і вучняў гайнаўскіх школ.



■ «Жэўжыкі» з Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Бельску-Падляшскім са сваім мастацкім кіраўніком Аннай Фіёнік

Журы фестывалю падчас конкурсных слуханняў звяртала ўвагу на мастацкі ўзровень выступаў, падбор і складанасць выканання калядак, спосаб акампанементу і на выгляд калядніаў і звёздачак. Конкурсныя слуханні і гала-канцэрт пачыналіся з удалага калядавання дашкольнікаў, якія захапілі публіку сваёй шчырасцю выступленняў і прыгожымі касцюмамі. Сярод дашкольнікаў былі дзве групы, якія вучацца беларускай мове, нашым традыцыям, танцам і гульням — калектыў «Калебка» з Садка № 1 у Гайнаўцы і калектыў «Верабейкі» з Садка № 3 з інтэграцыйнымі аддзяленнямі ў Бельску-Падляшскім. Першае месца заняў калектыў «Звёздачкі» з Садка № 5 у Гайнаўцы, а другое — калектыў «Званочкі» з Садка № 3 з інтэграцыйнымі аддзяленнямі ў Гайнаўцы. На трэцім месцы апынуліся калектыў «Калебка» і калектыў «Сундучок» з Непублічнага садка свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Гайнаўцы, а вылучэнні атрымалі бельскі калектыў «Верабейкі» і калектыў «Жамчужынкі» з Садка № 2 у Гайнаўцы.

Вучні пачатковых школ запрэзентавалі старадаўнія і сучасныя калядныя творы. У гэтай групе на высокім мастацкім узроўні выступіў і заняў першае месца калектыў Комплексу школ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.

— Мы падрыхтавалі розныя калядкі, нават адну на сербскай мове, — заявіла мастацкі кіраўнік беластоцкага калектыву Ала Каменская.

Традыцыйнае калядаванне паказалі «Жэўжыкі» з Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Бельску-Падляшскім і занялі трэцяе месца.

— Мы запрэзентавалі клімат даўняга калядавання і нашы даўнія калядкі — «Там по прызбонці», якую спявалі дзеткам, і «Учора з вэчора», якую мы запісалі ажно на Палессі. Выконваем іх з даўнім напевам, а свой выступ абапер-лі таксама на калядны абрад з казой, які быў характэрны для навагодніх гульняў, — заявіла апякун «Жэўжыкаў» Анна Фіёнік, настаўніца з бельскай «тройкі».

Калектыў «Лясныя ноткі» з Падставовай школы № 3 у Гайнаўцы запрэзентаваўся з традыцыйнымі калядкамі, прыгожымі звёздачкамі і атрымаў вылучэнне.

— Мы ў асноўным выступаем з беларускім і іншамоўным свецкім рэпертуарам, але таксама калядуем тут, у доме культуры. Да каляднага спеву больш складана падрыхтавацца, — заявіла мастацкі кіраўнік вакальнага калектыву ў гайнаўскай «тройцы», настаўніца беларускай мовы Марыя Крук.

Займальна калядавалі хор Пачатковай школы № 2 у Гайнаўцы і калектыў «Гіп-Топ» з Пачатковай школы № 4 у Гайнаўцы, якога вучні спявалі калядкі пад акампанемент школьнага духавога аркестра. Цікава запрэзентаваліся таксама калядоўшчыкі хору Пачатковай школы № 1 у Гайнаўцы, калектыву Пачатковай школы ў Дубінах, малодшая і старэйшая групы беларускага калектыву «Сунічкі» са Школьна-дашкольнага комплексу ў Белавежы. Іх мастацкі кіраўнік, настаўніца беларускай мовы Анджаліна Масальская паінфармавала, што з-за вялікага марозу, характэрнага для каляднага перыяду, былі клопаты з прыездам. Вадзіцель аўтобуса не мог завесці рухавік і трэба было арганізаваць прыезд вучаніц з Белавежы на прыватных аўтамабілях. Вучні з беларускага калектыву «Знічка» Гайнаўскага белліцэя займальна заспявалі калядкі, якія з'яўляюцца ўжо пастаянным элементам іх рэпертуару і як адзінаму ўдзельніку ў катэгорыі сярэдніх школ журы прызнача трэцяе месца.

— Калядуючы, мы падтрымліваем нашы традыцыі. Калі цяпер штораз менш дзетак і моладзі калядуе па дамах і кватэрах, мы ў доме культуры ў святочныя вечары супольна радуемся, славячы Божае Нараджэнне, — заявілі гайнаўскія белліцэісткі са «Знічкі», якіх падрыхтавала да выступу мастацкі кіраўнік Паўліна Скепка.

працяг ☞10





# Рэсурсы і мазгі

Маю апошнім часам дзіўнае адчуванне дэжа-вю. Ізноў расейскія прапагандысты рознай масці завішчалі з усіх медыйных крыніц, якіх у Беларусь транслюецца-ліецца празмерна шмат, пра тое, што „бедная на рэсурсы” Беларусь ніяк не пражыве без матухны Масквы. Безнадзейна прападзе былая савецкая рэспубліка без шчодрай апякунскай рукі Расеі. Маўляў, няма ніякіх шанцаў выжыць Сінявокая. Падобныя галашэнні мы ўжо чулі ў канцы васьмідзясятых гадоў. Дзеіла гэтая наўмысная хлусня дастаткова эфектыўна, міф пра беднасць беларускіх рэсурсаў метадычна ўбіваўся ў галовы насельнікаў Беларусі. Нават, здавалася б, ужо сталыя і пражыўшыя свой няпросты век людзі чухалі патыліцу і казалі: „Добрая рэч незалежнасць, але без Расеі мы прападзем”. Такія інфантылы вельмі нагадвалі Хобатава — героя кінастужкі з сімвалічнай назвай „Пакроўская брама”. Расея ж выглядае ў ролі былой жонкі Маргарыты Паўлаўны, якая ніяк не хацела адпускаць ранейшага мужа Хобатава, не давала яму ні жыць, ні развівацца, ні нават дыхнуць самастойна.

Зараз ідэолагі знішчэння Беларусі як дзяржавы зноў ухапіліся за гэты стары замшэлы міф, што наша краіна без Расеі прападзе. Але з гісторыі дваццатага стагоддзя добра вядома, што прападае якраз той, хто ўвязжацца ў доўгатэрміновае партнёрства і саюз з Расеяй. Масква ж зараз ніяк не можа адмовіцца ад сваіх імперскіх амбіцый і ўсё марыць адрадзіць Савецкі Саюз і мець свае ўплывы па ўсім свеце. А вынікі? Вось тая ж Куба дайшла пад патранажам Крамля да поўнай разрухі і галечы. Толькі зараз „востраў свабоды” пакідае будаваць сацыялізм, які згубіў ужо не адну дзяржаву за мінулае стагоддзе, і пакрысе выбіраецца з глыбіннай ямы.

Возьмем яшчэ да прыкладу паўднёваамерыканскую дзяржаву Венесуэлу. Па прыродных рэсурсах — гэта адна з багацейшых краін не толькі кантынента, але і ўсяго свету. У Венесуэле ёсць усё — нафта, газ, жалезная руда, баксіты, алмазы, урэшце рэкі і адпаведна гідраэнергія. Але на чале гэтай дзяржавы стаяць палітычныя фанатыкі-ўзурпатары ўлады, якія абралі „асаблівы шлях развіцця”. У выніку гэтага асаблівага шляху насельніцтва краіны дайшло да голаду, з Венесуэлы ўцякаюць усе, хто можа, а суседнія дзяржавы — Аргенціна ды іншыя не хочуць мець нічога супольнага з цяперашнім венесуэльскім дыктатарам. Сітуацыя ў Венесуэле набліжаецца да сапраўднай гуманітарнай катастрофы. Нездарма і „эрбэшныя” прапагандысты, якія так шмат трубілі пра брацкі народ Венесуэлы пры Чавесе і на пачатку кіравання Мадуры, замоўклі і нават не згадваюць пра тыя інвестыцыі, якія ўклалі начальнікі Рэспублікі Беларусь у заакіянскі сацыялізм блізкага па духу саюзніка. І пра выгоды ад гэтай супрацы маўчаць.

У маленькай Эстоніі, якая ў дваццаць разоў меншая за Венесуэлу, і блізка няма тае прыроднага патэнцыялу. Аднак ёсць разумныя людзі, якія выбіраюць талковых палітыкаў, якія змаглі належна ўладкаваць дзяржаву, развіць эканоміку, выкарыстаць турыстычны патэнцыял, забяспечыць матэрыяльны дабрабыт насельнікаў. Тое, што гэтая дзяржава дбае пра сваіх жыхароў — не пусты гук. Апошняя інфармацыя з гэтай краіны ўвогуле выклікае захапленне яе ўрадам — з нядаўняга часу Эстонія выплачвае пенсію і тым жыхарам іншых краін, якія не менш 15 гадоў працавалі на эстонскай тэрыторыі раней.

Яшчэ больш яскравы прыклад — гэта Карэя, падзеленая па 38-й паралелі ў 1948 годзе. За 70 гадоў гэтыя дзве суседнія часткі апынуліся нібы на розных полюсах. „Амерыканская Карэя” стала дэмакратычнай, адной з самых тэхналагічных і багатых краін свету, „савецка-расейская Карэя” дасягнула крайняга таталітарызму, занядбання эканомікі, галечы і поўнай бяспраўнасці няшчасных людзей. Карэйскі „эксперымент” з адным і тым жа народам, здавалася б, яскрава ўсім усё паказаў. Але ж уключыць мазгі намнога цяжэй, чым уключыць тэлевізар.

Персанаж кіно Хобатаў усё ж вырваўся з-пад апекі Маргарыты Паўлаўны, якая за яго ўсё вырашала. Праўда, яму дапамаглі. Беларусі звонку не дапаможа ніхто. Так што трэба самім „уключаць мазгі” і спадзявацца толькі на сябе.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Тое ж самае

Ці гэта не Генрых Ман, нямецкі пісьменнік і старэйшы брат Вялікага Томаса, настойваў, што нейкі Сталін ставіць der Geist (духа) значна вышэй, чым die Macht (сілу)? Ён не меў рацыі або быў проста карысным ідыётам, або быў спакушаны вабнасцямі ленінскай утопіі? Не быў бы гэта адзіны выпадак, калі такія панады адабралі розум стараватаму самцу. Геній Сталіна хвалілі на Захадзе вядучыя інтэлектуалы эпохі. У манументальнай «Утопіі ва ўладзе» аўтары яе другога тома, Міхал Гелер і Аляксандр Некрыч працытавалі сумны анекдот пра выдатнага англійскага біёлага, які з любасцю распавядаў заходнім журналістам пра тое, як Сталін „асабіста прыходзіў па начах на маскоўскія грузавыя станцыі, каб дапамагаць грузчыкам». Такі жаласлівы! Як з ім было сапраўды, скажа лік болей дзесятка мільёнаў людзей загіблых па яго загадзе ў савецкіх працоўных лагерах. А можа нават пару дзясяткаў. У тым ліку сотні грузчыкаў.

Сапраўды, трэба было паказаць вялікі дух, каб падняць на кволых плячах цяжар стольких ахвяр. Сталін быў дрэннай паставы, а хліпкія мышцы на самой справе выкарыстоўваў толькі для...сядзення. І ўсё ж у рэйтынгу ўсіх сусветных злачынцаў надалей займае адну з лідзіруючых пазіцый. Расіяне да сёння засакрэчваюць ГУЛАГаўскія архівы, дык хто ведае, ці не з'яўляецца ён архізлачынцам. Ці сорамна ім за такога лідара? Ці, можа, саромяцца свайго мінулага? У рэшце рэшт, гэта мінулае кажа нам, хто такі чалавек, якая нацыя. Без яе і чалавек, і народ губляе сваю ідэнтычнасць. Хто я ёсць, хацеў бы спытаць сябе, калі б занядужаў глыбокай амнезіяй мінулага? Хто я — без свайго дзяцінства, параз і ўзлётаў? Іншая справа, што савецкая гістарыяграфія праніцавала мінулае і Расіі, і Савецкага Саюза і дзясяткі разоў, і ў тысячу спосабаў, абсалютна ігнаруючы памяць пра мінулае многіх пакаленняў расіян. Яны сталі быццам нацыяй астраўной памяці, непрацяглай, падымаючай выключна свае рацыі правільныя і яшчэ больш правільныя. Прытым скажоныя бягучай палітыкай улады. Цяперашняя «царыфікацыя» іх дзяржавы, папярэджаная крывавай дыктатурай пралетарыяту, а на самой справе ленінскай партыйнай клікі і, нарэшце, тыраніяй асобы Сталіна, можа здзіўляць толькі тых, хто сумняваецца ў тым, што гісторыя сапраўды «коціцца кругам». І коціцца, а восьсю, як правіла, з'яўляецца адзін чалавек.

Такім чынам, памяць пра мінулае нельга блытаць з гісторыяй. Яна сама па сабе падвяргаецца інтэрпрэтацыйнаму скажэнню, не кажучы ўжо пра ідэалагічныя ці палітычныя махлярствы. Палітызацыя Інстытута нацыянальнай памяці і затым яго пакручастая роля ў фармаванні «актуальнай» польскай гісторыі Польшчы, балючы прыклад таго. Нездарма ж вялікі фізік нашага часу, абвешчаны як пераемнік Эйнштэйна, Стывен Хокінг меркаваў, што вывучэнне гісторыі, якая, па яго словах, «гэта па сутнасці гісторыя глупства», трэба замяніць вывучэннем інтэлігенцыі будучыні „як фактара вырашальнага аб будучыні нашай цывілізацыі і нашага віду ў цэлым». Ці ён не меў рацыі? Час пакажа.

Я ведаю, што нельга дараваць людзям перш за ўсё паводзін агідна малых, здавалася б, малаважных для якасці вышэйшых над імі — вялікіх спраў. Вялікая справа — агульнае дабро. Малая рэч — абыякавы да ўсяго і ўсіх эгаізм. Вялікая справа — праўда такая якая ёсць. Малая справа яе асуджае. Не можа быць праўдзівай і праўдзівейшай ісціны. Праўда на самой справе можа быць толькі адна. На жаль, у кожны гістарычны перыяд знойдуцца людзі проста наіўныя, і ў агульнай складанасці «карысныя» для ўлады і гэта ідыёты, ці проста цынічныя. Як правіла, гэта асобы маральна прадажныя або ўнутрана малыя, хоць і не пазбаўленыя інтэлекту, аднак гатовы аддаць сябе за крышыну папулярнасці, за камфортнае жыццё, або проста з патрэбы дробнай помсты ці з-за нейкіх магутных комплексаў. Магчыма, гэтыя недахопы скажаюць іх пазнавальную перспектыву.

Можа быць, пан Земец, пан Рахонь ці ў апошні час «пластылінавая панця» і многія іншыя перад імі і пасля іх, будуць прадаваць сваю душу з пераканаппем, што даручаюць яе анёлам. Але бываюць і выпадкі адваротныя, змяшчаючыеся ў тым самым генатыпе чалавечай напышлівасці, ганарыстасці. Такія святыя дрэннай ці добрай справы — усё роўна. Адно і тое ж.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Украінцы і беларусы ў польскай гаспадарцы

Мой сябра з Беларусі даволі доўга не змог зараз прыехаць у Беласток, таму што ўсе білеты ў маршрутках з Гродна ў Беласток былі даўно забраніраваны. Проста пасля каталіцкіх і праваслаўных Каляд беларусы масава пачалі вяртацца на працу да сваіх польскіх працадаўцаў. Тое, што мы, жывучы на памежжы, бачым на ўласныя вочы, пацвярджаюць у рэальнасці польскія статыстычныя ведамствы. Каб не трапіць у спіраль беспрацоўя і сацыяльнай беднасці, дзясяткі тысяч грамадзян Рэспублікі Беларусь прымушаны шукаць лепшай долі і зарплат на ўсходнім і заходнім эканамічным вектары. У апошніх гадах назіраецца пастаянны зыход з маскоўска-пецярбургскіх рынкаў працы ў кірунку варшаўска-еўрасаюзных. Такім чынам беларуская грамадскасць можа, на жаль, цягам бліжэйшых гадоў страціць самую актыўную і эканамічна спасобную праслойку народа. Што гэта абазначае для любой краіны, мы маглі назіраць на практыцы цягам амаль апошніх сарака гадоў на прыкладзе Польшчы, калі сплеценне палітычных і эканамічных крызісаў выпіхнула назаўсёды ў эміграцыю мільёны палякаў; а ў апошнім дзесяцігоддзі — асабліва маладых. Тых дэмаграфічных і інтэлектуальных патрат немагчыма нівеліраваць цягам аднаго ці пяці гадоў. Для польскага рынку працы паратункам з'яўляецца прыток працоўных рук, асабліва з Украіны ці Беларусі. Спалучэнне гэтага з мэтанакіраванай палітыкай адтоку мазгоў з Усходу і асіміляцыі, між іншым, дзякуючы таксама Карце паляка, дазваляе дзяржаве ў нейкай ступені кампенсаваць свае патраты людскога капіталу. Не трэба доўга шукаць, бо ўжо ў самім Беластоку і ў ягоных рэстаранах ці барах значную частку кухараў, афіцыянтаў ці барменаў складаюць маладыя людзі з распазнавальным, мелодычным, усходнім вымаўленнем. У многіх сетках крамаў паратункам таксама аказаліся прадаўшчыцы з Украіны. Цяпер, як я даведаўся неафіцыйна, ліквідаваць недахоп медсясцёр у падляшскіх шпіталях маюць медсёстры з Украіны за значна большую зарплату, чым атрымліваюць іх польскія сяброўкі. Тое, што ўжо лекары з Гродна моцна ўвайшлі на шпітальны рынак працы Сувалак ці Беластока, пераканаўся я сам асабіста. Размова тут ідзе пра тых, якія маюць легальную працу. Памятайма, што згодна з правіламі рынку працы, за адным легальным месцам працы для чужаземца ідуць два-тры нелегальныя. Таму такім множнікам трэба ўстанаўліваць сапраўдную колькасць працуючых у Польшчы ўкраінцаў ці беларусаў.

Асабістыя назіраннямі праілюструю некаторымі данымі Міністэрства сям'і, працы і сацыяльнай палітыкі па працаўладкаванні іншаземцаў у Польшчы. У 2017 годзе выдадзены было 236 тысяч дазволаў на працу, што ў параўнанні з 2016 годам вырасла аж на 85%. У першай палове 2018 года польскія павятовыя бюро працы зарэгістравалі наступныя колькасці працаўнікоў з усходу: беларусы — 30 646, рускія — 2676, украінцы — 692 466, малдаване — 18 983, грузіны — 11 279, армяне — 762. Разам ад студзеня да чэрвеня 2018 года афіцыйна працавала ўжо 756 812 чужаземцаў. Так як і ў папярэдніх гадах з вялікім адрывам лідзіруюць працаўнікі з Украіны. А так выглядаюць такія ж даныя за вышэйзгаданы перыяд у нашым Падляшскім ваяводстве: беларусы — 3218, рускія — 54, украінцы — 9233, малдаване — 110, грузіны — 78, армяне — 7. Як бачым, украінская працоўная каланізацыя ў нашым ваяводстве афіцыйна амаль утрая большая за беларускую. Пытаннем недалёкай будучыні стане выбар: ці вяртацца на родную Украіну, ці запусціць свае сямейныя справы тут, на Беласточчыне і прыступіць да актыўнай самаарганізацыі і сваёй культурна-асветнай супольнасці? Рэлігійна-нацыянальная адметнасць Падляшша, нягледзячы на ніжэйшыя зарплаты, з'яўляецца тым фактарам для эмігрантаў з Украіны, які дазваляе ім адчуваць сябе тут даволі камфортна. Але гэта ж не Падляшскае ваяводства ў маштабе Польшчы з'яўляецца магнітам для чужаземцаў. Як выглядае гэта ў іншых ваяводствах Польшчы і дзе ахвотна прымаюць чужаземцаў, а дзе са стрыманасцю, прачытаем у наступным нумары «Нівы».

**Яўген ВАПА**

# Дні юдаізму ў Дуброве

У Дуброве-Беластоцкай прайшлі ўрачыстасці, звязаныя з XXII Днём юдаізму — святам у Каталіцкім касцёле, якое адзначаецца штогод напярэдадні Тыдня малітваў за адзінства хрысціян. Да вайны мястэчка развівалася дзякуючы яўрэям і большасць яго жыхароў складала яўрэйскае насельніцтва. Чарговы раз, дзякуючы даследчыцы яўрэйскай гісторыі ў Дуброве, прагучала супольная малітва на мясцовым кіркуце.

### Заснаваць новую традыцыю

Дуброва-Беластоцкая пачала ўключацца ў агульнапольскія Дні юдаізму тры гады таму. Гэта была ініцыятыва Дароты Будзынскай — настаўніцы гісторыі, краязнаўцы, даследчыцы яўрэйскай гісторыі на Сакольшчыне. З вучнямі Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Нікадэма Суліка ў Дуброве правяла ўжо сотні паходаў, вандровак ды акцый, якія мелі на мэце адкрыванне яўрэйскай мінуўшчыны самой Дубровы і навакольных гарадкоў.

— Не гаварылася аб гэтым, што тут калісьці жылі яўрэі. Памятаю, калі мы ўпершыню з вучнямі ўвайшлі на яўрэйскі кіркут. Гэта была звалка, — адзначыла Дарота Будзынская.— Мы палічылі, што гэта не можа так выглядаць! Трэба нешта рабіць. І робім.

Дні юдаізму ў Каталіцкім касцёле ў Дуброве гэта адзін з вынікаў дзейнасці настаўніцы і вучняў. Упершыню прайшлі яны ў 2017 годзе. Тады ў малітве прымалі ўдзел мясцовы ксёндз Якуб Буткевіч, жыхары Дубровы, ліцэісты і прадстаўнікі яўрэйскай меншасці з Беларусі. На яўрэйскіх могілках малітву ўзначаліў старшыня яўрэйскай гміны ў Гародні Барыс Квяткоўскі. Вядомы дзеяч быў узрушаны прысутнасцю ліцэістаў, якія адначасова былі суарганізатарамі падзеі.

— Мне цяжка падабраць тыя словы, якія б выразілі той стан, калі я бачу моладзь і яе настаўнікаў, тых дарослых, якія накіроўваюць да правільнага разумення той гісторыі, якая была, — сказаў на дуброўскім кіркуце Барыс Квяткоўскі.

На першых угодках Дня юдаізму ў Дуброве прысутнічаў таксама прадстаўнік Асацыяцыі юдэа-хрысціянскага дыялогу „Shomer — International” у Беларусі Яўген Калодзін:

— Гісторыя можа ажываць дзякуючы такім мерапрыемствам, сумесным малітвам, канцэртам. Калі гэтага будзе больш і больш — мы будзем разумець адзін аднаго, шанаваць.

### Пасля вялікай пусткі

Добраўпарадкаванне кіркута было адной з першых супольных акцый Дароты Будзынскай і яе ліцэістаў. У 2016 годзе ліцэй імя Нікадэма Суліка ў Дуброве пачаў праект «Чытанне попелу — слядамі дуброўскіх яўрэяў». У рамках праекта ў будынку ліцэя была адкрыта выстаўка «Драўляныя сінагогі» з Цэнтра імя Людвіка Заменгофа ў Беластоку. У цырымоніі прынялі ўдзел нашчадкі дуброўскіх яўрэяў — Марк Падвал і Міхаэль Невінса, якія расказалі пра лёс сваіх сем'яў. Прайшла канферэнцыя па гісторыі дуброўскай яўрэйскай супольнасці а таксама паўстаў фільм у рэжысуры Тамаша Вісьнеўскага «Адсутная сям'я».

Першая згадка пра дуброўскіх яўрэяў паходзіць з пачатку васямнаццатага стагоддзя. Тады ўжо ў годзе існавала яўрэйская рэлігійная абшчына, якая падпарадкоўвалася гміне ў Гродне. У 1806 годзе яўрэі складалі больш за палову насельніцтва Дубровы, а восемдзесят гадоў пазней — да 85%.



■ Біблеіста кс. Артур Сулік


■ Прадстаўніца яўрэйскай абшчыны Люсі Лісоўская ў час сустрэчы з ліцэістамі


■ Моладзь з ліцэя імя Нікадэма Суліка ў Дуброве-Беластоцкай у час супольнай малітвы на мясцовым кіркуце

—Да сёння не магу зразумець, што тая супольнасць, якая будавала Дуброву, будавала гэтае мястэчка, прамысловасць, рамёствы, знікла, можна сказаць, за адзін дзень, — тлумачыла ў час сёлетняга Дня юдаізму ў Дуброве Дарота Будзынская. — І засталася пустка. І гэтая пустка існавала некалькі дзясяткаў гадоў.

Зараз у Дуброву прыязджае штораз больш нашчадкаў мясцовых яўрэяў. У кастрычніку 2018 года мястэчка наведала двух братоў Вількаў — адзін жыве ў Злучаных Штатах, а другі ў Ізраілі. Яны ўзялі з сабою сваіх дзяцей, каб супольна адкрыць іхнюю бацькаўшчыну. Акрамя таго яны сустрэліся з моладдзю мясцовай школы.

— Прымаю ўдзел ва ўсіх мерапрыемствах, ладжаных спадарыняй Даротай Будзынскай, каб даведацца нечага больш, — сказала ў час сёлетніх урачыстасцей з нагоды XXII Дня юдаізму ліцэістка Аляксандра Ёдчык. — Для мяне было нечаканасцю, што так многа цікавых месцаў у Дуброве можна знайсці, ведаючы гісторыю. Напрыклад, мыква — вельмі важнае месца для яўрэяў знаходзіцца тут, на тэрыторыі мястэчка. Шкада, што так мала людзей аб гэтым ведае. Мы стараемся тыя месцы парадкаваць, аднавіць ці проста апісаць і перадаць іншым.

Гісторык Дарота Будзынская не сумняваецца, што моладзь павінна перш за ўсё ведаць гісторыю сваёй мясцовасці.

— Мы часам сустракаемся — і я, і мая моладзь з не надта прыхільнымі словамі адносна нашай дзейнасці. Аднак я лічу, што гэта патрэбнае вучням і нам усім. Крытыка не ў змозе мяне крануць. Робім гэта дзеля агульнага дабра, талерантнасці, зычлівасці. Плануем яшчэ арганізаваць Дзень ісламу ў польскім Каталіцкім касцёле.


■ Арганізатарка сустрэчы Дарота Будзынская

### Святкаванні ў Дуброве

З 1997 года 17 студзеня ў польскім Каталіцкім касцёле адзначаюцца Дні юдаізму. Гэтае свята, было ўстаноўленае Канферэнцыяй епіскапату Польшчы на дзень вілеі Тыдня малітваў за адзінства хрысціян. Свята мае на мэце прыпамінаць і паглыбляць сувязі паміж юдаізмам і хрысціянствам. Цэнтральныя ўрачыстасці штогод праходзяць у іншым горадзе і кожнай прысвячаецца іншы пасыл. Сёлета горадам-гаспадаром з'яўляецца Лодзь, дзе да Другой сусветнай вайны большасць жыхароў горада складалі яўрэі. Арганізатарам Дзён юдаізму з'яўляецца Камітэт Канферэнцыі епіскапату Польшчы па справах дыялогу з юдаізмам і Лодзінскае архібіскупства. Дэвіз сёлетняга Дня юдаізму ўзяты з кнігі прарока Асіі: „Не прыходжу, каб губляць”.

— Я хацеў прыблізіць пасыл прарока Асіі, прыблізіць Бога, які верны ў сваёй любові. У сваім дакладзе я спрабаваў паказаць моладзі вартасць людскога жыцця, — сказаў біблеіст кс. Артур Сулік. — Жыццё кожнага чалавека мае перад Богам вартасць — нягледзячы на тое, якой мы нацыянальнасці, якой веры. Мы ўсе — дзеці аднаго Бога. Пры гэтай нагодзе я таксама хацеў успомніць усіх дуброўскіх яўрэяў, якія жылі ў Дуброве да вайны, а памерлі толькі таму, бо былі яўрэямі. Гэта вельмі несправядліва і трэба аб гэтым голасна сказаць.

У дуброўскім ліцэі сустрэліся прадстаўнікі мясцовай улады, дзеячы культуры суседніх гмін ды самі ліцэісты, дзеля якіх была наладжана сустрэча з Люсі Лісоўскай.

— Я была здзіўлена, што моладзь мела так многа пытанняў, — сказала пасля ўрачыстасці прадстаўніца яўрэйскай абшчыны Люсі Лісоўская. — Было відаць, што яны сапраўды цікавяцца пытаннямі юдаізму.

Пасля сустрэчы з Люсі Лісоўскай і кс. Булікам усе пайшлі на мясцовы кіркут, дзе супольна маліліся і запалілі зніча. Аб'яднаныя ў малітве таксама ўспаміналі дуброўскіх яўрэяў, памардаваных у канцэнтрацыйным лагеры ў Трэблінцы.

— Памяць заўсёды павінна быць гарачай і перапоўненай любоўю да тых, якія так многа сэрца ўклалі ў паўстанне нашага мястэчка, — сказаў пасля малітвы на кіркуце бургамістр Артур Гайлевіч.

Яўрэйскія могілкі ў Дуброве адны з найлепш упарадкаваных з ліку ўсіх на Сакольшчыне.

— Мусім узаемна пазнаваць адзін аднаго. Калі пазнаем, то зменяем разуменне, хто ёсць для нас чужы. Чым больш будзем ведаць, тым лепш будзем ставіцца да іншых, — сказала ў час урачыстасці прадстаўніца яўрэйскай абшчыны Люсі Лісоўская.

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**



Размова з Мікалаем МУРАЎСКІМ, пенсіянерам з Орлі, 1941 года нараджэння.

Фота Міхала МІНЦЭВІЧА

# Працаваў пекарам

**— Ці Вы запамяталі сваіх дзядоў?**

— Помню толькі дзеда Фёдара з боку маці; калі памёр, ляжаў на покуце, а мне было хіба з пяць гадоў. Бабуля Ніна жыла даўжэй.

**— Ваш бацька не быў арлянцам...**

— Бацька Мікалай, 1909 года нараджэння, прыехаў у Орлю калі яму было дзевяць гадоў. Прыехаў разам са сваім братам Пятром, якому было трынаццаць; яны былі сіротамі. Прыехалі з Беластока, дзе раней жылі па вуліцы Цеснай, 7. Тут, у Орлі, іхні бацька Канстанцін нешта купіў; дзедка і пахаваны ў Орлі. Калісь пан прыдзяліў нашым продкам цальнікі 9,6 і 8,5 гектараў за Орляй з боку Крывятыч — каб яны аралі. Нажылі яны каня, пан пабачыў, што яны працавітыя, таму прысвоіў ім прозвішча Мураўскі — ад мурашак. Гэтыя палі сям'я абрабляла, браты гаспадарылі разам. Мелі хатку па Пасвятнай вуліцы, дзе Мішка Рынгайла. Бацька расказваў, што нейкая старэйшая жанчына з Крывятыч варыла ім яду. Пасля пабудавалі падвойны драўляны дом па вуліцы Вызвалення, побач свайго поля. Будаваліся ў міжваенны час, дапамагаў ім Шайкоўскі, цесць Ёдлы — прывозіў ім бярвенні.

**— Як успамінаеце сваё дзяцінства?**

— У сям'і нас было трое: старэйшая сястра Рая з 1939 года і наймалодшая Тамара з 1947 года. Я нарадзіўся ў снежні 1941 года, у Орлі яшчэ стралялі, то, бадай, накрывалі мяне падушкай у схові́шчы, бо я крычаў. Сябраваў з Янкам Кулешам. Хадзіў у прадшколле, апякункай была Марыся Пшэводэк; жыла яна ў Смольскіх, у сям'і мясцовага лекара.

**— З таго часу захаваўся здымак дашкольнікаў, зроблены ў лесе Марэсі Кубаеўскай.**

— Усе рабілі здымкі ў лесе Марэсі, каля сажалкі. Быў там такі асобны будынак, у які прыязджалі летнікі. Прыязджаў пракурор Крымюк з сям'ёю, прыязджалі цыганы. Калі пазней я працаваў у пякарні ў рынку, то прыязджалі цыганы з сем'ямі, цынавалі катлы ў пякарні.

**— Ці дзеці дапамагалі бацькам? Як тады дзеці гулялі?**

— Ад мяне бацькі не патрабавалі дапамогі, але я дапамагаў, бо гэта цікавіла мяне.

**— Ці заглядалі ў сінагогу?**

— Заходзілі. Там ужо друз валяўся і кал. Помню, як хлопцы адбівалі камянямі фрэскі, і як адпадаў кавалак, то кожны хапаў, бо былі каляровыя. Пасля перасталі. А пазней ГС зрабіў там склад фертылізатараў, Анапюк быў кладаўшчыком. Чырвоныя калійныя ўгнаенні жэрлі сцены сінагогі. У той час прэзасам ГСу быў Адзіевіч; злавіў суседа, які краў там фертылізатары.

**— Як выглядала Ваша адукацыя?**

— Вучыў Васіль Лашкевіч з жонкай Варкай. Яны хіба жылі ў школьным будынку ад панадворка. Пасля сёмага класа пайшоў у белліцэй. Дырэктарам быў Кастыцэвіч, а фізікі навучаў Грыша Анацік з Аўгустова, які пасля быў таксама дырэктарам. Вучыўся два гады і пакінуў, пайшоў у прафвучылішча гастранамічнага накірунку ў Беластоку, па вуліцы Пралетарыяцкай, па пякарскай спецыяльнасці. Дырэктарам быў Начас. Навучаліся пекары. кандытары, афіцыянты. Помню, што недалёка адтуль была жыдоўская бажніца, вялікі мур. Калега кажа: „Апранай шапку, завяжу цябе". Ён даведаўся, што я з Орлі; а там, у бажніцы, усе ў шапках. Пасля пытаў я яго, чаму мяне туды завёў, а ён адказаў, што ў Орлі многа жыдоў.

**— Ці ў 1960 годзе былі жыды ў Беластоку?**

— Многа было. Кожны прыватны ларок яны трымалі, займалі крамы ў дзяржаўных памяшканнях. Сядзела жыдоўская прадаўшчыца з залатымі зубамі, а на пальцах што хочаш. У той бажніцы былі ўсе таксісты. Я ўжо ведаў, што калі таксіст, то жыд. Апраналіся яны так як і ўсе. Школу закончыў у 1961 годзе.

**— Пекарам заўсёды праца знойдзецца. Ці Ваша спецыяльнасць прыдалася Вам і ў войску?**

— Пасля школы адрабляў практыку ў Беластоку. Бралі з калегам па тры змены, каб хутчэй адрабіць стажыроўку. І на восень забралі мяне ў войска, у матросы да Дзіўнова на выспе Волін. Навабранцам наеўся я ліхога хлеба, „кіту", і пытаю боцмана: „Хто яго пячэ?" Мая мама Вольга прыслала мне школьнае пасведчанне, трапіла яно да начальніка штаба. І перавялі мяне ў пякарню. Далі самаход „Нысу" і паехаў з шафёрам у прыватную пякарню, узяў свежую закваску. У кухні памыў дзежы. Калі спёк, то валілі валом паесці, бо пах пайшоў. І ўжо астаўся ў пякарні. Узяў да сябе яшчэ Януша Бжазоўскага з Саколаў, што каля Лап, бо з ім разам вучыўся. Ну і зажыў, бо ноччу рабіў, а цэлы дзень меў для сябе — плед і на пляж...

**— Ці былі Вы на караблі?**

— Адзін раз, навабранцам быў на дэсантных барках. Былі вучэнні па марскім дэсанце. Былі такія, што не ўмелі плаваць, бяда была, трэба было іх выцягваць.

**— Ці ў войску сустрэлі землякоў?**

— Побач нас, у артылерыі, быў Зютак Назарэвіч з Орлі і я яму шмат дапамог. Ён часта хварэў, бо караўуліў над залівам, дзе не было ніводнага сховішча, толькі вецер свістаў, штормы. А склады пад зямлёй. Не мог ён нават атрымаць пропуску. То я папрасіў свайго боцмана, ваеннага ветэрана, каб той аформіў у штабе вартаўнічы пастарунак каля пякарні. І ён пастараўся. Мы, пекары, дазвалялі Зютку падрамаць на мяшках у пякарні, а калі хто ішоў, будзілі і ён: „Стой! Твар да распазнання!". Пасля мы разам хадзілі на пропускі. Калі ён прыйшоў вартаваць „на пякарню", то акрыяў.

**— Служылі далёка ад дому. Ці бывалі ў водпуску?**

— Давалі прэміяльны водпуск за добрую выпечку, але толькі пяць дзён. Я кажу камандзіру, што такі водпуск толькі на прывітанне і развітанне — прыехаць і ехаць назад. То далі дзесяць дзён водпуску. І так з калегамі з пякарні чаргова ездзілі ў водпуск.

**— Ці бралі Вас у запас?**

— Адзін раз быў, у Беластоку. Трапіў у мабільную пякарню — хлеб пяклі ў час язды. Там была карусельная печ, формачкі на вешалках, палілі драўнінай. Усё рабілі падчас язды. Разам са мною быў пазнейшы солтыс Пятро Бяроза са Шчытоў-Навадвораў.

Помню як ехалі ў запас. У Беластоку яшчэ здарова папілі, па нас спецыяльна прыехаў самаход, заходжу ў часць, а мяне сустракае афіцэр Ладны — мой настаўнік са школы. Вітаюся: „Добры дзень, пан прафесар!" А ён: „О, разам у школе, разам у войску". Цікава было. За спазненне Пятру прыйшлося абіраць бульбу, а мяне выратаваў той прафесар, забраў. Той запас быў толькі стратай часу.

**— У Орлі працавалі пекарам?**

— Загадчыкам пякарні, якой уласнікам раней быў жыд Ізбуцкі, быў Эдвард Багінскі з Бельска. Начаваў у пякарні ў бюро, а на нядзелю ездзіў дадому; яго жонка была медсястрой у шпіталі. І дзякуючы яму я стаў на працу ў пякарні, бо прэзас ГСу Толік Адзіевіч не хацеў мяне прыняць. Казаў, што мой бацька мае гаспадарку і мне на падаткі трэба гаспадарыць, а не працаваць у пякарні. Але Багінскі сказаў мне прыйсці. Я прыйшоў, ён даў мне халат, і як я спёк хлеб, то ён занёс буханку прэзасу і кажа: „Пабач, які ён хлеб пячэ; і маеш яго прыняць на працу, а як не — то я кіну работу". І тады прынялі мяне.

Пекарамі ў той час працавалі Толік Нэстаровіч, Антэк Кулеша, Коля Мураўскі, Юрак Майстровіч, Міхал Кубаеўскі, Янак Шыманскі, Владэк Багацэвіч; я пераважна працаваў з апошнім. Калі старую пякарню ліквідавалі, бо пабудавалі новую, то перавялі мяне на пасаду кладаўшчыка. Прадаваў штучныя ўгнаенні, вугаль. Адышоў з працы ў ГС, калі бацька перадаў гаспадарку. Бацька не хацеў здаваць гаспадаркі гміне, то я мусіў яе пераняць і пасля васьмі гадоў адысці з ГСу.

**— Ці Вы пяклі толькі хлеб, ці таксама кандытарскія вырабы?**

— Пяклі таксама здобу; у школе ўсяго вучылі. У арлянскай пякарні пёк я бісквітныя рулеты, пірагі з макам — для жанок міліцыянераў, для Франковай (Веры Назарэвіч), пад святы. Пёк па ветлівасці, за барыш. Але печ у пякарні была нявыгадная для выпечкі здобы, бо пакатая, а тыповая печ павінна быць гарызантальнай. Калісь з Толікам Нэстэровічам пяклі для Гані Радзівонавай. Я таксама дома рабіў пончыкі; дачка Бася знойдзе нейкую рэцэптуру, а я раблю...

**— Вы гаспадарылі з размахам, ад гэтага назвалі вас „шэрыфам". Былі таксама буйным плантатарам бульбы, а пасля гадавалі малочных кароў. Ці партыя дапамагала ў жыцці?**

— Ніколі я партыйным не быў. Ажаніўся ў 1966 годзе з Тамарай, мясцовай. Бацька купіў пляц і пабудаваўся. Сам умеў аформіць матэрыялы, напрыклад для цэнтральнага ацяплення краны, бойлер аж у складзе ў Моньках. Ішло гэта на варштат ГСу ў Орлі. Там завёў знаёмства, завозіў гарэлку, закуску і ўсё афармлялі.

**— Жыццё ў ПНР?**

— Мне было нармальна. Я на нішто не наракаю. Помню такую сітуацыю: у Беластоку калісь, пры „Салідарнасці", зайшоў у гарадскую прыбіральню каля „Крысталя", а там зверху напісана чырвоным „Komuno wróć!" Пытаю прыбіральшчыка, што гэта, а ён: „Зрабіў сваё і ўцякай, пра нішто не пытай!"

**— Жыццё на пенсіі?**

— На пенсію выйшаў у 2001 годзе. Еўрасаюзная мне не належала; зарана нарадзіўся. Хто зачапіўся, той атрымаў высокую. Але цяпер амаль усіх зраўнялі.

**— Дзякую за размову.**

Гутарыў Міхал МІНЦЭВІЧ



# Хата Надзеі

Вёска Сацы ў Нарваўскай гміне Гайнаўскага павета — адна з больш вядомых у Палляшскім ваяводстве з найлепш захаваных помнікаў драўлянай архітэктуры. Сацы, узніклыя ў палове XVI стагоддзя (першы пісьмовы напамін — з 1560 года), як пішуць аб ёй, унікальная вёска. Знаходзіцца на адлегласці трох кіламетраў ад ваяводскай дарогі № 685, сярод лясоў, на шырокай паляне ў даліне ракі Рудні. Захавалася тут арыгінальная планіроўка і традыцыйныя сядзібы, якія ўключаюць у сябе жылы дом з дваром, сад або агарод і гаспадарчыя пабудовы, такія як абора, хлеў, куратнік, свіран, клуня і шопка. Кожны ўчастак акружаны плотам з варотамі і брамкай. Асада вельмі незвычайна, таму што на самой справе складаецца з дзвюх вуліцовак размеркаваных па абодва бакі патоку. Кожная частка сяла мае звычаёвую назву, вуліцу і загуменную дарогу (па-за клунямі). Сухляны ляжаць на поўначы, Макравы — у паўднёвай частцы. Калісьці нават даходзіла да боек паміж гарачымі юнакамі з абодвух бакоў, якія ад спрадвечных часоў спалучаюць дзве пад'язныя дарогі (ад усходу і захаду). Сацы належалі да прыхода ў Пухлах, які быў уніяцкім прыходам. Пасля адмены Берасцейскай уніі ў 1839 годзе жыхары спакойна вызнавалі праваслаўе, з якім не страцілі кантакту на працягу больш за 200 гадоў. На той факт паўплывала блізкасць Заблудава — аднаго з нямногіх цэнтраў, якія ніколі не далучыліся да уніі. У сяле знаходзяцца зарочныя крыжы, сведчыўшыя пра моцны культ святога Антонія Пячэрскага, заступніка адшэльнікаў — у недалёкіх Адрынках мелі сваю пустэльню манахі-бежанцы ад уніі. У 1861 г. у Сацах устанавілі стоўпавую капліцу св. Іаана Хрысціцеля, а пад канец дзевятнаццатага стагоддзя — каплічку прарока Ілы. Нягледзячы на шырокае распаўсюджанне непісьменнасці ў тыя часы, жыхары Сацоў (а таксама іншых бліжэйшых вёсак) у асноўным умелі чытаць і пісаць. Гэта дзякуючы тытанічнай працы ў корані святароў Рыгора і Флора Сасноўскіх, піянераў асветы, якіх вынікі працы прынеслі вялікі плён у адукацыі сялян. Лекцыі і сетка парафіяльных школ змянілі менталітэт жыхароў тутэйшых вёсак, адных з найбольш асвечаных у той час. У 1866 годзе Сацы налічвалі 80 драўляных дамоў. Сёння, як гэта ні парадаксальна, самыя старыя будынкі ў вёсцы гэта мураваныя, пабудаваныя ў пачатку дваццатага стагоддзя і ператураваўшыя Першую сусветную вайну. Драўляныя пабудовы з дзевятнаццатага і васямнаццатага стагоддзя згарэлі — падпаленыя казакамі пасля выезду жыхароў у бежанства ў 1915 годзе. У 1919 годзе засталося сем мураванак, кузня і пяць драўляных хат (з вусных паведамленняў). Калі прарэджаныя людзі вярнуліся ў сваё сяло, з вялізнымі намаганнямі сталі аднаўляць сядзібы. Захоўвалі старую традыцыю ўнутранай і вонкавай планіроўкі, у выніку чаго на сённяшні дзень вёска цалкам пад аховай рэстаўратара помнікаў даўніны. Далучылі хараство, якое ўбачылі ў бежанстве ў глыбіні Расіі, аздобы — дэкаратыўныя выразныя вуглы будынкаў, аканіцы, надваконнікі, шчыты — і тое хараство прыжылося, і стала паказчыкам краіны адкрытых аканіц — як адкрытых сэрцаў. Другая сусветная вайна ашчадзіла будынкі і жыхароў. З ваенных франтоў не вярнулася 4 маладых мужчын. Пасля 1945 года вёска мела каля 110 дамоў і дваццаць пасяленняў на хутарах. Амаль усе жыхары былі праваслаўныя, дзве сям'і адвентыстаў сёмага дня — адна з іх эміграваладала ў Аўстралію. Сем сем'яў выехала ў Савецкі Саюз. У канцы 50-х гадоў XX стагоддзя пачалася масавая эміграцыя з вёскі ў гарады. Апагей гэтага працэсу меў месца ў канцы 60-х і ў 70-я гады Сёння сяло амаль пустое — населены 38 дамоў, у тым ліку жыхароў хутароў. ... Абедзве вуліцы ў Сацах — брукаваныя. Гэты старэнькі брук трэба будзе паправіць. Створаны некамерцыйны фонд, мэтай якога з'яўляецца кансервацыя вуліц у Сацах. Старадаўні брук трэба будзе зняць, падсыпаць, зацвярдзіць, а затым пакласці зноў... І так жывуць людзі ў Сацах, на чале са сваёй сотлтыскай-аніматаракай культуры Тамарай Ляшчынскай, для якой дзейнічанне жывых помнікаў дойлідства і жывых сацоўцаў — прыярытэтная, еўрапейская справа, якая прыцягвае ў Сацы турыстаў і любіцеляў жыцця ў хараstве і дабрабыце сярод роднай прыроды і традыцыі.

У мінулых гадах двары і дамы з Сацоў былі ўзнагароджаны або вылучаны ў конкурсе на найлепш захаваны помнік сельскага дойлідства ў Падляшскім ваяводстве, між іншым аграгаспадарка солтыса. У 2018 годзе І ўзнагароду атрымала хата Надзеі Андраюк (нумар 34), якую ўласніца перапісала ўжо на дачку Марыю Філіпюк. Асабліва ўрачыста віншаваў і ўручаў узнагароду (грашовую) і таблічку на дом з інфармацыяй, што дом з'яўляецца помнікам архітэктуры, маршалак сацоўскай старажылцы, якая на завяршэнне мінулагодняга конкурсу з'явілася з вялікім прадстаўніцтвам Сацоў, разам з солтыскай і іншым узнагароджаным гаспадаром (Ян Туроўскі, II узнагарода, дом нумар 181, і сяброўкі гаспадыні дома нумар 184 Монікі Сельскай), а таксама ўсёй шматкапаленнай сям'ёй. Узнагароду прымала з рук прадстаўнікоў ваяводскага самаўрада разам з унукам. Якой радасцю свяціліся яе вочы — ушанавана была праца і яе, і ейных продкаў, захаваная ў родным краявідзе, якога яны не псавалі, а выдатна паказалі яго красу. І важнае — жыве яна ў тым доме, аздабляе вырабамі ўласных рук. Хата, у якой яна жыве (а некаторыя ўласнікі ўзнагароджаных будынкаў выкарыстоўваюць свае хаты і каморы як летнія дамы або хаты для турыстаў) — сапраўды жывая. Удзельнікі конкурсу ведаюць, што якія-небудзь змены ў будынку, якія, здавалася б, зробяць яны для выгады і «сучаснасці», дыскваліфікуюць іх у змаганні за вылучэнне будынка як помніка, але таксам псуюць яго — прымяненне пластыкавых матэрыялаў, пераробкі ў сценах і дахах спрычыняюцца да таго, што будынак перастае дыхаць, добра вентылявацца, пачынаюць гніць бэлькі, столь, падрубы, кроквы. Важная тут свядомасць асоб, якія атрымалі ў спадчыну ці набылі такую каштоўнасць і павінны надалей захоўваць яе ў нашым краявідзе і гісторыі ў як найлепшым стане.

Прасторны і светлы дом у Сацах пад нумарам 34 пабудаваны каля 1920 года, пасля вяртання дзеда спадарыні Надзеі, прадзеда Марыі. З'яўляецца ён тыповым прыкладам хаты з выдатна падабранымі прапорцыямі і аздобнымі дэталямі. Дом стаіць шчытом да вуліцы. Захаваная арыгінальная шалёўка ў тыповым ладзе — да ніжняй рамы акна вертыкальная, а вышэй — гарызантальная. Будынак аздабляюць плыцінавыя аканіцы з тыповым унутраным падзелам, прафіляваныя вырэзаныя дэталі на рагах і шаляванне шчыту дошкамі ў кут. Пры ўваходных дзвярах знаходзіцца ганак з двухскатным дашком на шасці слупках. Дах хаты пакрыты бляха-дахоўкай. Сярэдзіна дома падзелена на два пакоі, кухню, камору і сені. У кухні стаіць кафельная печ з каптуром і ляжайкай. Сярод мэблі — цікавы шлябанчык з разной спінкай ды крупчасты куфар. На сценах вісяць шматлікія алеадрукі і здымкі, макаткі вышываныя ручнікі...

— Мы прыехалі ўсёй радзінай, — кажа Надзея Андраюк. — Вось мая дачка, Марыся, зяць Костак, Філіпюкі, а тут праўнучак Бартэк, і ўнучка Альжбета, ужо Грыгарук. Ну, што паказваем. Драўляная, старынная хата. Даўняя. Як мой дзядуля прыехаў з Сібіры, у царскую вайну, тады і будаваў. Мой дзед меў на імя Міракс. Алексяюк. Цяпер то пэўна яго Мірак называлі б... Быў яшчэ сусед, імя меў Міракс. І пляменнік таксам меў такое імя. Прыгожае імя. Пяць гадоў былі ў Сібіры. Дзед быў на станцці стрэлачнікам, у Бійску. Далёка. І на радзіму вярнуліся. Мая дачка ўжо ў Беластоку жыве, я на яе ўсё апісала, я тут сама дбаю аб сваё. О, цэлае пакаленне прыехала. А што мы маем старыннае дома? Мэблю, ручнікі, якія вышывала я і гафтавала. Падушкі, з устаўкамі, робленымі кручком. І тыя дываны, што на станках ткалі, ходнікі. Усё маем!

— Мама перадалі мне дом ужо даўно, — кажа Марыя Філіпюк. — Ужо ў 1991 годзе. Мой муж быў прымак...

— І мой таксама быў прымак, — смяецца спадарыня Надзея. — Дзесяць гадоў як яго няма. Я сама 1929 года нараджэння. Можа і добра яшчэ выглядаю, але ўжо гне пазваночнік.

— Мама добра выглядае, бо многа працуе, — кажа Марыя.

— О, шчэ картоплі на агародах — пасадзілі, але не выбіралі, яшчэ ж сама спраўляюся. Тры разы апалю агарод, цыбулі, гуркоў насаджу... І курачкі маю, і яшчэ ўсё ем. Гэта так на прыродзе. Ну, і коцік. Без коціка не абыдзешся, напявае мне для здароўя, Кубусь. Ну, а маё імя такое простае. Надзя. Доўгі час лічылася нехарошым, але цяпер ужо хрысціць. Сярод малых дзяўчатак ужо ёсць Надзі. І ў тэлевізары я чула, што Надзі зноў паявіліся... Ой, так далёка ехаць у гэты Цехановец, у палац, на завяршэнне конкурсу. Такому старому... Каб хоць столькі як да Бельска... А тая ўласніца дома, што хату мае з нумарам 184, то ў Францыі жыве. А аб свае дбае. А Ян Туроўскі ў сваёй хаце нарадзіўся ў 1952 годзе, і там жыў, пакуль не пайшоў вучыцца. Хата ў яго яшчэ «маладая», пабудаваная ў 1939 годзе, ужо пасля парцэляцыі, і 12 гаспадароў пасялілася на хутарах. Дзяды ў яго Васіль і бабуля Вольга Астапчукі. Як у хатцы было пастаўлена, так і ёсць. І сцяноўка, і хлебная печ, і ляжайка старога тыпу. Іконы, макаткі, якія ткала яго маці Настасся. Летам ён гаспадарыць, восем гектараў, адно здароўя няма. А нашы хаты — такія старынныя, і трымаюцца!

— У той хаце мая мама радзілася, — кажа Тамара Ляшчынская, дваюрадная сястра Яна Туроўскага. — Такая хатка каштоўная, сямейная. Гняздо. Многа ўспамінаў, партрэты, здымкі на сценах... Ручнікі, макаткі, ходнікі. Сталы, лавы... Капанькі, сундукі, плахты.... Прабабчыны саяны. Усё, што дзед з бабаю, Сафіяй, калісь рабілі. Усё сямейныя памяткі. Бабуля Сафія памерла ў бежанстве. Дзед быў у Германіі. Паехаў яе шукаць. І так дзеткі засталіся сіротамі. Дзяцей выхоўвала баба Ірка — Орынка. Дзед Аксенцій з ёю ажаніўся. Дзед з Орынкай тут пазнаўся і яна выхавала нашага дзеда Васіля. Як дзед Васіль ажаніўся з бабаю Олькаю, і баба Олька нарадзіла маю маму і Янкаву маму — Насцю і Соньку... Трэба памятаць род і іх працу. І Сацы жыць будуць.

Тэкст і фота
**Міры ЛУКШЫ**

# Крык цішыні

*Памяці Паўла Адамовіча*
*Прэзідэнта Гданьска*

Аркестр святочнай дапамогі,
Агеньчык шчасця плыў да Бога.
Адначасова ўся краіна
Спаўняла важную павіннасць.

Нянавісці так шмат навокал,
Жыву я ў старасці глыбокай.
А Прэзідэнт раптоўна гіне —
У росквіце гадоў мужчына.

У прадчуванні ён, паверце,
Намесніку сказаў прад смерцю:
– „Трэба, Дружа, жыць з надзеяй:
Калі не згінеш – умацнееш"!

**Віктар Швед**
Беласток, 18 студзеня 2019 года.



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

Зорка
для дзяцей і моладзі

# Людзі нас цёпла прымалі...



«Каляднікі» Міхася Дмітрука



Вучні з беластоцкай «пяцёркі» ставяць калядны спектакль

Зноў адзначылі Свята Раства Хрыстова. Усюды зрабілася бела-бела і «скрыпеў» мароз. Нельга пакінуць свята без калядавання! Разам з сяброўкай Паўлінай Ёдлай выцягнулі мы калядную зорку, запалілі лямпкі і пайшлі да людзей. Наша зорка засвяцілася, ажыла, папрыгажэла. Людзі нас вельмі цёпла прымалі, дзякавалі за калядкі. Запрашалі прыйсці праз год.

Сёлета было трохі марозна. Пачырванелі нам насы і змерзлі ногі. Аднак мы не здаліся. Каляды ў вёсцы — прыгожае і каляровае свята.

Дык як тут не калядаваць!

Трэба берагчы традыцыю.

**Вікторыя ГАЦЬ,**
**бельская «тройка»**

(Байкі сярэднявечнай Арменії)

# Вол, небарака

Аднойчы вол рашыў забадаць свайго гаспадара. Надакучыла яму ўжо цяжкая праца. І пуга, якой гаспадар сцёбаў яго сцёгны і задніцу...

Натапырыўся вол з рагамі, аднак нічога не атрымалася.

Ён жаласна зароў і стаў дакараць Бога:

— Чаму ты зрабіў мае рогі павернутымі да сярэдзіны? Калі б яны тырчалі прама, справы пакаціліся б інакш... Я адбадоўся б ад балючай пугі і рабскай долі. А так, за работай свету не бачу!

Ён доўга наракаў, жаліўся ажно атрымаў адказ з неба:

— Відаць, Бог ведаў твой дурны характар! І каб абараніць цябе ад самога сябе, ён абачліва павярнуў рогі да сярэдзіны.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

Вікторыя Верабей

## Карагод

У бары
Пад Новы год
Звяры
Ладзяць карагод.
Глянь,
Паўсталі цесна ў круг
Лань,
Вавёрка і Вяпрук,
Касавокі
Зай з Ваўком,
Рудабокі
Ліс з Катом.
Ім
Сягоння Дзед Мароз
Падарункі ўсім
Прынёс.
Толькі
Пагулялі ледзь,
Нехта ўспомніў:
— Дзе ж Мядзведзь?
У бярлозе,
Ля сасны,
Сніць
Аб Новым годзе
Сны.

## УВАГА КОНКУРС! № 04-19

**Па сцяжыне, па дарозе**
**У іх бегчы я не ў змозе**
**І па снезе не ідуць,**
**Лёд убачаць — і лятуць!**
**(К.....)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 10 лютага 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 52: снег.**

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Сара Марціновіч, Карына Кураш, Дам’ян Даліна-Суліма з Орлі, Бартэк Рудзінскі, Мацей Дзерманоўскі з Залук, Мая Тапаялянская з Нарвы, Норберт Боян, Дагмара Краўчук з Міхалова, Ніколь Баслай, Вікторыя Кандрат з Нараўкі. Віншуем!

# Калядныя малюнкі і Святыя вечары

Калядныя абрады, як мала якая з’ява, каларытныя і жыццярадасныя. Яны ажно просяцца перанесці іх на паперу ці на мастацкую кампазіцыю. Такая задума, каб сабраць творы таленавітых дзяцей, прыдумала настаўніца рэлігіі Лена Добаш з беластоцкай «пяцёркі». Дзякуючы энтузіязму і падтрымцы бацькоў, сёлета здзейсніўся V выпуск мастацкага конкурсу на тэму Раства Хрыстова. Вечарам, 16 студзеня г.г., нягледзячы на вялікі снегапад, у беластоцкую «пяцёрку», што па вуліцы Каменнай, з’ехаліся дзеці і бацькі з усяго ваяводства. Сярод іх мы пабачылі нашых сяброў і чытачоў з Беластока, Бельска, Міхалова...

— Мы спатыкаемся ў так званыя Святыя вечары. У гэты час разам з сябрамі і сваякамі славім цуд Божага Нараджэння. І гэтую вялікую радасць мы часта выяўляем у калядках, праз простыя словы, — гаварыў айцец Іаан Федарчук з беластоцкага Свята-Мікалаеўскага сабора.

Бацюшка — духовы апякун і заадно шчодры спонсар конкурсу. З салодкімі падаркамі з’явіўся таксама радны Падляшскага сейміка Славамір Назарук, які сам у мінулым працаваў настаўнікам рэлігіі. Настаўніца надта сардэчна падзякавала бацькам, якія падтрымалі яе фінансава і маральна.

Яшчэ да таго, калі былі названы імёны лаўрэатаў, дзеці з ПШ № 5 паказалі калядны спектакль на рускай мове. Сцэнку папоўнілі калядкі на беларускай і ўкраінскай мовах. Тут трэба пахваліць Патрыцыю Пех, якая раскруціла публіку. Яшчэ сёння ў вушах звініць яе звонкае і чыстае выкананне беларускай калядкі «Ой на моры-моры»! Хоць у сярэдзіне спектакля не былі прадбачаны апладысменты, гледачы не стрымалі і ўзнагародзілі Патрыцыю гучнымі бравамі!

— Цешыць нас і радуе, што з кожным годам мастацкі калядны конкурс прыцягвае ўсё больш і больш удзельнікаў, — гаварыла віцэ-дырэктар школы Агнешка Сасіноўская.

Сапраўды, можна гаварыць ужо пра масавасць мерапрыемства, паколькі сёлета ўдзел прыняло ажно 250 удзельнікаў. Усе яны стараліся прыдумаць арыгінальны канцэпт, насыціць адпаведнымі колерамі і пачуццямі...


Настаўніца Лена Добаш вітае конкурснікаў і гасцей


Патрыцыя Пех


Віцэ-дырэктар Агнешка Сасіноўская ўручае ўзнагароды лаўрэатам


Ёлка з саломы

— Гэты конкурс надзвычай важны для нас усіх, — гаварыла ўзрушаная спадарыня Агнешка Сасіноўская, — бо ён дае магчымасць пабыць разам дарослым і дзецям, падыхаць калядный атмасферай.

Усіх гасцей, якія шчыльна запоўнілі прасторны школьны калідор, чакаў салодкі пачастунак, супольныя бяседы і калядкі ды каларытная выстаўка.

Тут сярод малюнкаў красаваліся анёлы, ёлкі і макеты цэркваў. Нам надзвычай спадабаўся малюнак Міхася Дзмітрука з Бельска, які прэзентуем на шостай старонцы «Зоркі».

**(гак)**

**Фота Ганны Кандрацюк**

**Норберт Боян,**
Аседле Бандары,
ПШ у Міхалове

КРЫЖАВАНКІ
Я заўсёды гуляю
ў крыжаванкі,
але калі мне не вядзецца,
пытаюся ў бацькоў, у брата.
Яны дапамагаюць мне
і называюць словы ўсе.

## Польска-беларуская крыжаванка № 04-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 52-2018:**
Каляднік, дом, прэса, тост, сасна, равеснік, землятрус, кара, прарок, атам. Круты, пуп, сказ, янот, вепр, дух, масляк, песня, нітка, дэмакрат, нос, ура, мара, сам.

Узнагароды, **карэктары,** выйгралі **Дамінік Грэсь** з Залук, **Вікторыя Залеўская, Дамініка Залеўская, Наталля Касцюк** з Орлі, **Магда Якубюк, Юльяна Высоцкая** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім, **Куба Аўярчук, Габрыся Красько** з Арэшкава, **Мая Тапалянская** з Нарвы. Віншуем!

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Jan / Prom | | | Jak / Mig | | | | | | | | Jawa |
| | | | | Łapka | Przed-wiośnie | | | | Roczek | | |
| | Nil / Księga | | | | | Nerka | | Wróg / Rok | | Dojar | |
| | | | | | Okazja / Ranga | | | | | | |
| | Gekon | Konie / Mysz | Przygoda / Aha | | | | | | | | Żeby |
| | Makar / Czy? | | | | | | Diakon | | | | |
| Cyganka / Cisza | | | | | | | | Irena | | | |
| | | | | Golec | | | | | | | |

# Гісторыкі і заўзятары гісторыі

**Пішу ў «Ніву» пасля прачытання першага нумара газеты за гэты год. Нумар атрымаўся ў роднай рэдакцыі вельмі цікавы, але ж не без хібаў, калі ідзе пра гісторыю.**

У «Даце з календара» Уладзімір Хільмановіч нешта забыў падаць дату нараджэння героя гэтай рубрыкі Ядвігіна Ш. — Антона Лявіцкага, вядомага беларускага пісьменніка. Нарадзіўся ён 4 студзеня 1869 г. На жаль, гэта найменшы недахоп у гэтым тэксце. Паводле Хільмановіча, апошнім праявам актыўнасці Лявіцкага на грамадскай ніве была арганізацыя беларускага таварыства дапамогі ахвярам вайны. Далей наш аўтар піша, што Лявіцкі «ў час вайны захварэў на сухоты. У 1918 г. яго стан пагоршыўся, што змусіла легчы ў шпіталь, а потым выехаць у Карпілаўку. Увосень 1920 г. вярнуўся ў Вільню і рыхтаваў да выдання свае ўспаміны. Памёр у Вільні ў шпіталі 24 лютага 1922 г. Пахаваны на могілках Росы на літаратурнай горцы». Гэтыя звесткі ўзятыя з беларускай Вікіпэдыі. Тым не менш тэкст пра Лявіцкага з гэтай было ні было сучаснай «энцыклапедыі» напамінае тэксты з камуністычных часоў, калі жыццяпісы важных для гісторыі і культуры Беларусі кастрыраваліся з усяго, што напамінала б пра іхны ўдзел у «нацыяналістычным» беларускім руху, пра ўдзел у антыкамуністычным змаганні не ўспамінаючы. Ну, захварэў няшчасны пісьменнік Лявіцкі і ўсё змаганне за незалежную Беларусь праляжаў у ложку.

Хапіла б, каб Хільмановіч заглянуў у беларускую Вікіпедыю і вобраз апошніх гадоў у жыцці ягонага героя атрымаўся б зусім іншым: «У сакавіку 1917 года Антон Лявіцкі ўдзельнічаў у З'ездзе беларускіх арганізацый, працаваў у яго камісіі друку і земскай камісіі. У ліпені 1917 — актыўны ўдзельнік З'езду беларускіх арганізацый і партый, абраны ў выканаўчы камітэт Цэнтральнай Рады Беларускіх Арганізацый. У кастрычніку 1917 стаў сябрам выканаўчага камітэта Вялікай Беларускай Рады. З сакавіка 1918 года — сябра Рады БНР. Адзін з заснавальнікаў Беларускай народнай партыі сацыялістаў і партыі „Зялёны дуб”».

Чаму Хільмановіч скарыстаў Вікіпэдыю, а не Вікіпедыю? Тым, хто мала арыентуецца ў тонкасцях беларускай справы патлумачу, што Вікіпэдыя пішацца «тарашкевіцай», падчас як Вікіпедыя — «наркомаўкай». Першая лічыцца больш надзейнай, але, як аказалася ў выпадку Ядвігіна Ш., гэта не заўсёды адпавядае праўдзе. Але і Вікіпедыя гістарычную праўду перадае нейк напаўголаса.

Сапраўдны, а не «вікіпедскі» Антон Лявіцкі не валяўся ў ложку, толькі ўвосень 1920 г. увайшоў у Беларускі Палітычны Камітэт з Вячаславам Адамовічам і Паўлам Алексюком на чале. Камітэт быў палітычнай шырмай для планаў генерала Станіслава Булак-Балаховіча. Падчас Палескага паходу генерала, у вызваленым Мазыры БПК пераўтварыўся ва ўрад незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі. Лявіцкі рэдагаваў бюлетэнь БПК «Зьвястун». Стаў таксама адным з заснавальнікаў Беларускай сялянскай партыі «Зялёнага дуба», якая вяла збройную барацьбу супраць бальшавікоў. Якраз удзел у паходзе Булак-Балаховіча падарваў канчаткова здароўе пісьменніка і выставіў яго на паклёпы з боку левых палітыкаў. Але Антон Лявіцкі свайго выбару не шкадаваў. Як напісаў перад смерцю: «Трэба было ісці і рабіць сваю справу».

Знявечанне жыццяпісу змагара за незалежнасць Беларусі Уладзімірам Хільмановічам лічу недаравальным, бо ён жа гісторык па адукацыі і незалежнік. Менш хвалюе мяне няведанне гісторыі, праяўленае ў гэтым самым нумары «Нівы» Аляксандрам Вярбіцкім у цікавым між іншым артыкуле «Віскулі» хаця б таму, што ён гістарычнай адукацыі не мае. Як піша Вярбіцкі, «вось і пралягла мяжа з добрай ласкі «вялікага Іосіфа». Як з усімі дзяльбамі бывае, падзяліла тая дзяльба не пароўну, пакідваючы Белавежу з яе вакзалам і ўсялякімі іншымі важнымі аздабленнямі на нашым, польскім баку. А сабе Сталін узяў маленька, сціпленька, так жа і на свой мундзір не чапляў ён амаль ніякіх аздабленняў. Чаму так сталася, дакладна не вядома і ўсялякія заўзятары гісторыі толькі здагадваюцца, толькі здагадваюцца...».

Заўзятары няхай і далей здагадваюцца, але гісторыкі як ішла гэтая дзяльба ведаюць дакладна і нават падрабязна. Падчас канферэнцыі ў Тэгеране на зломе лістапада і снежня 1943 г. Сталін заявіў, што Беласток з акругай як беларускі горад павінен належыць Савецкаму Саюзу. Але тут жа запярэчыў яму Чэрчыль, маўляў Вялікабрытанія ўступіла ў вайну, каб абараніць Польшчу і на ніякую мяжу апрача згоднай г.зв. лініі Керзана пагадзіцца не можа. Сталін здаў Беласток надзвычай лёгка, але не без задняй думкі. Узамен пажадаў для Расіі Кёнігсберг, які да гэтага моманту перагавораў павінен быў быць далучаны да Польшчы як Каралявец з усёй Усходняй Прусіяй (гл. Piotr Eberhardt, *Polska granica wschodnia 1939-1945*, Warszawa [1993]). Такім чынам прайграныні былі і Беларусь, і Польшча, а выйгранай Расія, якая цяпер у Кёнігсбергу перайменаваным на Калінінград трымае аграмадную ваенную сілу, якая пагрозліва навісае над Польшчай. Калі чытаю ўспаміны польскіх ветэранаў антысавецкага падполля, што Сталін не далучыў Беласточчыну з-за страху перад надзвычай моцнай польскай партызанкай, не ведаю, ці смяяцца, ці плакаць...

Але ж Белавежская пушча надалей мела знаходзіцца ў БССР, бо яна размешчана на ўсход ад лініі Керзана! Што ж тады сталася? Піша аб тым дакладна беларускі гісторык Анатоль Вялікі ў артыкуле «Як Белавежа апынулася ў Польшчы» (http://elib.bspu.by/handle/doc/1342). Вось абшырная цытата з гэтага артыкула з маімі паясненнямі ў квадратных дужках:

„24-26 ліпеня [1944 г.] у Маскве адбыліся перагаворы паміж савецкім урадам і ПКНВ [Polski Komitet Wyzwolenia Narodowego], у ходзе якіх важнейшае месца заняло пытанне аб дзяржаўнай граніцы паміж СССР і Польшчай. У перамовах з польскага боку ўдзельнічалі Э. Асубка-Мараўскі — старшыня ПКНВ, Б. Дробнер, М. Роля-Жымерскі і С. Котэк-Аграшэўскі. З савецкага — І. Сталін, В. Молатаў, А. Вышынскі. Прапанаваны І. Сталіным праект на ўсходнім, беларускім участку пакідаў БССР-СССР усю Белавежскую пушчу і большасць тэрыторыі Сувальшчыны, што значна разыходзілася з лініяй Керзана. Палякі, прааналізаваўшы савецкі праект, не пагадзіліся з ім, асабліва ў частцы прыналежнасці пушчы. У час наступных размоваў І. Сталін пагадзіўся перадаць Польшчы Аўгустоў і Сувалкі, але адносна пушчы быў непахісны і нават не хацеў абмяркоўваць гэтага пытання. Свой пункт гледжання ён абгрунтоўваў тым, што яго клапоціць не павелічэнне тэрыторыі СССР, а інтарэсы беларускага і ўкраінскага народаў. Па ўспамінах Э. Асубкі-Мараўскага, ён папрасіў І. Сталіна зрабіць перапынак, каб абмеркаваць сітуацыю. У час перапынку Э. Асубка-Мараўскі паведаміў членам польскай дэлегацыі, што калі СССР не пойдзе на саступкі ў пытанні прыналежнасці Белавежскай пушчы, то ён, як старшыня ПКНВ, падасць у адстаўку. Пасля перапынку М. Роля-Жымерскі выказаў удзячнасць І. Сталіну за перадачу Польшчы Сувалак і Аўгустова, але ўсё ж настойліва прасіў перадаць пушчу палякам. М. Роля-Жымерскі ўспамінаў, як І. Сталін рашыў гэтае важнае для палякаў і беларусаў пытанне: „Аб чым размова? Але найперш я мушу параіцца з маімі беларусамі”. На гэтым перамовы скончыліся і польская дэлегацыя вярнулася ў памяшканне СПП. Не болей як праз гадзіну, паводле ўспамінаў М. Роля-Жымерскага, яму патэлефанаваў В. Молатаў і паведаміў, што І. Сталін пагадзіўся перадаць ім палову Белавежскай пушчы і м. Белавежу. 27 ліпеня 1944 г. В. Молатаў і Э. Асубка-Мараўскі падпісалі пагадненне паміж урадамі СССР і ПКНВ аб савецка-польскай граніцы, за аснову якога была прынята лінія Керзана з адступленнямі ад яе на карысць Польшчы (на беларускім участку): „[...] частку тэрыторыі Белавежскай пушчы на ўчастку Няміраў-Ялаўка, размешчаную на ўсход ад лініі Керзана з астаўленнем Нямірава, Гайнаўкі, Белавежы і Ялаўкі на баку Польшчы”.

Аб такой дзяльбе не мела паняцця кіраўніцтва БССР і беластоцкія савецкія ўлады, якія аб усім даведаліся, калі 27 ліпеня 1944 г. на аэрадром у Крыўлянах прыляцела дэлегацыя ПКНВ, каб прыняць уладу над Беласточчынай у свае рукі. Вакол перадачы Сталіным Белавежскай пушчы Польшчы ўзніклі легенды, якія перш за ўсё стварылі польскія прадстаўнікі на перагаворах з савецкім кіраўніцтвам, стараючыся гераізаваць свае паводзіны. Але ж я не пра гэта. Як ні глядзі, дзеячы Народовэй Гайнуўкі замест арганізаваць Марш выклятых жаўнераў, павінны хадайнічаць за дазвол на пабудову помніка Асубку-Мараўскаму і Ролі-Жымерскаму, бо гэта дзякуючы ім Гайнаўка знаходзіцца ў Польшчы...

Алег ЛАТЫШОНАК

# Святая Вада

Кароткая цытата з пачатку пачаткаў, з першай кнігі Біблії, з Першай кнігі Майсеевай: „На пачатку стварыў Бог неба і зямлю. Зямля ж была бязладдзем і пустэчаю, і цемра была над паверхняй бездані, і Дух Божы лунаў над водамі. І сказаў Бог: Няхай станецца святло. І сталася святло. І ўбачыў Бог святло, што яно добрае, і аддзяліў Бог святло ад цемры. І назваў Бог святло днём, а цемру назваў ноччу. І быў вечар, і была раніца, дзень першы. І сказаў Бог: Няхай станецца скляпенне пасярод водаў, і няхай яно аддзеліць воды ад водаў. І ўчыніў Бог скляпенне, і аддзяліў воды, што пад скляпеннем, ад водаў, што над скляпеннем. І так сталася. І назваў Бог скляпенне нябёсамі. І быў вечар, і была раніца, дзень другі. І сказаў Бог: Няхай збяруцца воды, што пад нябёсамі, у адно месца, і няхай з'явіцца суша. І так сталася. І назваў Бог сушу зямлёю, а збор водаў морам. І ўбачыў Бог, што гэта добра. Сказаў Бог: Няхай зямля выдасць зеляніну, траву, што рассявае насенне, і пладовае дрэва, што дае плод паводле гатунку свайго, у якім насенне яго. І так сталася. І выдала зямля зеляніну, траву, што рассявае насенне паводле гатунку свайго, і дрэва, што дае плод, у якім насенне паводле гатунку яго. І ўбачыў Бог, што гэта добра. І быў вечар, і была раніца, дзень трэці...”

Гэты парадак стварэння нашага свету пацвярджаецца і свецкімі здагадкамі. Вада стала прапачаткам, перадумовай, крыніцай усяго жыцця на зямлі. Не дзіва тады, што ў рэлігійным аспекце займела яна пазіцыю сакрум. Энцыклапедыя Брокхаўза і Эфрана: „Глубокая древность приписывала воде творческий, божественный характер. Отсюда святость струй Ганга для индусов, Нила — для египтян, Рейна — для древних германцев, Дуная — для славян. Таинственную глубину вод поэзия выбрала обиталищем наяд и нереид, русалок, водяных и т. п. Как средство достижения внешней чистоты тела, вода сделалась символом внутреннего очищения души. Священные омовения предписывались Зороастром, Магометом и Моисеем. Христианство удержало символическое значение воды, получившей особое значение с установлением таинства крещения; Богоявленская или крещенская вода считается святынею, агиасмою. В народе существует поверье, что она всегда остается свежею. Это же свойство приписывается воде, взятой из живого источника в самую полночь на праздник Богоявления. Ее применяют в священных церемониях при окроплении полей, стад, зданий и т. п. Святою водою называется иногда и без освящения вода некоторых источников, озер, колодцев и т. д., ознаменованных явлением чудотворной иконы, пребыванием святого мужа и т. п. В римско-католической церкви святая вода имеет еще особое применение. При входе в каждый костел имеется чаша с освященною водою, в которую входящие погружают персты и потом знаменуют ими лицо. Появление этих чаш, напоминающих „медное море” Соломонова храма, в церквах Запада относится к IV веку. У мусульман существует обычай освящать воду погружением в нее плаща Магомета. Погружение совершает раз в год сам султан в Константинополе и рассылает освященную воду важнейшим сановникам...” Вось і ў нас некаторыя крыніцы, якія асацыяваліся з цудоўнымі аздараўленнямі, лічыліся месцамі сакральнымі, напрыклад Лясная каля Белай-Падляшскай ці Гадышэва каля Браньска. Адным з такіх месцаў з'яўляецца і ўрочышча, *потеп отеп*, Святая Вада каля Васількава.



Касцёл у Святой Вадзе





Пячора ў Святой Вадзе

Паводле легенды, у Васількаве жыўбыў нейкі Васіль, у якога было два сыны. Малодшы з іх страціў зрок і па смерці бацькі старэйшы брат прагнаў яго з хаты. Заапекавалася ім нейкая дзяўчына, водзячы яго за папрашайніцтвам, аднак пасля нейкага часу пакінула яго ў лесе. Там ён, бездапаможны ад людзей, стаў маліцца да Багародзіцы, якая па нейкім часе прыснілася яму, падказваючы, каб ён разгарнуў лісце побач, разгроб пясок, з якога пацячэ вада; тою вадою трэба было прамыць асляплыя вочы. Так ён і зрабіў, у выніку чаго вярнуўся яму зрок. З вялікай удзячнасці пабудаваў ён у тым месцы, над крынічкай, хатку, а ў хатцы павесіў ікону Багародзіцы. Магчыма, што легенда гэтая звязана з гістарычнай постацю галіцка-валынскага князя Данілы Раманавіча, які пазней каранаваўся ў Драгічыне на рускага караля...

Іншая легенда расказвае, што іншага Васіля, які на старасць страціў зрок, сын вывез у лес і пакінуў. Ён таксама маліўся да Багародзіцы, якая падказала яму прамыць вочы вадою з тамашняй крынічкі, у выніку чаго вярнуўся яму зрок. І ён пабудаваў над крынічкай капліцу.

Так пра гэтае ўрочышча расказваюць легенды. У кнізе Рыгора і Антаніны Соснаў прыводзіцца паведамленне, што першыя пісаныя звесткі пра Святую Ваду паходзяць з 1719 года, а дакладней пра пабудаваную там капліцу. Пабудаваў яе адзін з працаўнікоў супрасльскай паперні, які называўся Васіль Папернік. Цытаваны ў кнізе дакумент паведамляе: „Cudowna ikona była bardzo czczona przez wiernych. Na święto parafialne wyruszała procesja z Wasilkowa i Supraśla do sanktuarium Świętej Wody przy ogromnym udziale wiernych... O cudownych uzdrowieniach świadczą pod przysięgą czterdzieści osób, którzy otrzymali cudowne uzdrowienie przed ikoną Matki Bożej i cudowną wodą ze źródełka...”

Гэтыя пісаныя крыніцы паходзяць з часу, калі ўрочышча Святая Вада было ва ўладанні ўніяцкага духавенства. Пасля 1839 года месца, так як і ўсе раней уніяцкія аб'екты, перайшло ва ўладанне Праваслаўнай царквы. Партал Святаводскай парафіі: „W 1839 r. car Mikołaj I doprowadził do brutalnego zlikwidowania unii kościelnej na terenie imperium rosyjskiego. Prześladowania nie ominęły unitów supraskich przywiązanych do wiary katolickiej i wspólnoty eklezjalnej z łacinnikami. Wskutek likwidacji Kościoła unickiego duch zjednoczenia ustąpił na rzecz idei lansowanych przez carat. Święta Woda, podobnie jak pobliski klasztor w Supraślu, zostały przekazane duchowieństwu prawosławnemu. W tym czasie kult Matki Bożej Bolesnej ustaje jako niezgodny z kanonami rosyjskiej Cerkwi. Mimo odgórnych nakazów miejscowi duchowni prawosławni nie zdecydowali się jednak na schowanie czy unicestwienie cudownego obrazu. W 1876 roku konsekrowano tutaj nową, tym razem prawosławną, murowaną kaplicę. Usytuowano ją kilkanaście metrów od dotychczasowej drewnianej, którą rozebrano. Po odzyskaniu przez Polskę niepodległości, katolicy przystąpili do rewindykacji swoich świątyń, plebanii i klasztorów. Oficjalny zwrot kaplicy świętowodzkiej nastąpił w dniu 30.11.1921 roku, a poświęcenie i przywrócenie pierwotnego tytułu sanktuarium „Matki Bożej Bolesnej” dnia 26.12.1921 roku”. Арыгінальная ікона Багародзіцы была вывезена ў Расію ў час бежанства і след па ёй прапаў. Адна яе копія знаходзіцца ў васількаўскай Петрапаўлаўскай царкве, другая — у былой капліцы, узведзенай у ранг парафіяльнага касцёла ў Святой Вадзе; аўтаркай апошняй з'яўляецца Галена Рабчынская, маці найбольш вядомага пробашча Васількаўскай парафіі. Партал: „Okres II wojny światowej wpłynął bardzo niekorzystnie na stan kaplicy. Od dnia 1.01.1940 roku została zajęta przez Armię Czerwoną. Do czasu ewakuacji sowietów w końcu czerwca 1941 roku została przez nich zbezczeszczona, zrujnowana i po części spalona. Po zakończeniu wojny aż do roku 1949 murowana kaplica pozostawała w całkowitej ruinie. Prace przy jej odbudowie powierzono ks. Wacławowi Rabczyńskiemu — najpierw wikariuszowi, a od 1951 roku proboszczowi parafii Wasilków. Od tego momentu zaczął się nowy, znamienny okres w historii Świętej Wody. Pierwszą inwestycją była budowa Groty, która miała być według planów ks. Rabczyńskiego kopią groty z Lourdes we Francji”.

Як паведамляе Вікіпедыя, у Лурд, паводле Каталіцкай царквы „11 лютага 1858 года, у чацвер, чатырнаццацігадовай мясцовай жыхарцы Бернадэт Субіру з'явілася Дзева Марыя. У выніку ў 1933 годзе яе кананізавалі пад імем святой Бернадэт, а Лурд ператварыўся ў адно з найбольш прываблівых месцаў для пілігрымаў не толькі Францыі, але і ўсёй Еўропы. Штогод у Лурд прыязджае да пяці мільёнаў чалавек. Толькі тых, хто спадзяецца знайсці тут лячэнне ад сваіх хвароб, у год прыязджае больш за 70 тысяч. Крыніцы каталіцкай царквы сцвярджаюць, што толькі за першыя 50 гадоў паломніцтва атрымалі поўнае лячэнне ад самых розных хвароб мінімум 4 тысячы чалавек”. Нешта такое было задумана і ў Святой Вадзе...

У 1997 годзе на горцы побач санктуарыя сталі стаўляць крыжы. Яны там розныя — ад аграмадных, высокіх, па сціпленькія, мабыць, ахвярныя крыжы паасобных вернікаў. У сваёй агульнай задуме Гара крыжоў побач Святой вады нагадвае гару Грабарку, толькі святаводская вельмі рашуча мяняе ўстаноўлены Творцам ландшафт. На Грабарцы „выдала зямля зеляніну, траву, што рассявае насенне паводле гатунку свайго, і дрэва, што дае плод, у якім насенне паводле гатунку яго. І ўбачыў Бог, што гэта добра”. А пры Святой Вадзе справа маецца значна інакш; Бог глядзіць на гэта з Высот, а пілігрымы знізу. І тыя разнародныя гіганцкія крыжы нагадваюць мне крышку евангеллі — усе, так кананічныя, як і некананічныя: кожны крыж розны, а якія з іх кананічныя...

Побач санктуарыя ўзведзены таксама паломніцка-забаўляльны цэнтр, які прапануе наведвальнікам не толькі духоўныя хваляванні, але таксама і нешта для свецкай раскошы; здаецца мне гэта быць адказам на сучасныя выклікі, дзе бязгрэшнае памаленьку саступае грэшнаму...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

1 ☞ працяг

# Калядаванне ў міжнароднай грамадзе



■ Калектыў «Лясныя ноткі» з Падставовай школы № 3 у Гайнаўцы

На высокім мастацкім узроўні запрэзентаваўся калектыў «Світанак» з Пружан (Рэспубліка Беларусь), якому журы прызначыла першае месца ў катэгорыі малодшых груп калядоўшчыкаў. Ажно тры групы каляднікаў выступілі ад імя Гайнаўскага дома культуры. На высокім мастацкім узроўні супольна калядавалі дзяўчаты розных груп Студыі песні ГДК і занялі другое месца.

— Мы найчасцей выступаем са свецкім рэпертуарам, а падчас калядных сустрэч співаем традыцыйныя калядкі, — сказала мастацкі кіраўнік Студыі песні Марта Грэдаль-Іванюк, якая звыш года займаецца таксама з калектывам «Анімата», што дзейнічае пры Нарваўскім асяродку культуры. Запрэзентаваўся ён цікава падчас калядавання ў ГДК і атрымаў вылучэнне.

Трэцяе месца ў катэгорыі малодшых груп калядоўшчыкаў камісія прысвоіла калектыву «Гілачка» з Гміннага асяродка культуры ў Чаромсе, які ўдала запрэзентаваў калядкі моцным спевам. У беларускім гайнаўскім хоры «Рэха пушчы» выступаюць асобы, якія ведаюць многа калядак і прыгожа калядавалі са сваім дырыжорам Алінай Негярэвіч. Дзеткі і моладзь з калектыву «Званкі» ГДК паказалі цэлы калядны абрад — з прывітальнымі і развітальнымі словамі, дыялогам калядоўшчыкаў з гаспадарамі і абдароўваннем каляднікаў каўбасой і іншымі харчамі, як было ў мінулым. Вучні выйшлі на сцэну ў цёплай вопратцы, стылізаванай на даўнюю.

— Я старалася, каб нашы дзеткі і моладзь стварылі атмасферу калядавання ў мінулым. Варта, каб дзеткі ведалі, з якой напружанасцю вяскоўцы чакалі каляднікаў і як шчыра давалі ім харчы ў падзяцы за калядаванне, — сказала мастацкі кіраўнік «Званкоў» Вера Масайла, а вучаніца Юлія Корх удакладніла, што са звёздачкай, з якой выступіла на сцэне, калядавала з сябрамі ў Гайнаўцы і Тафілаўцах, дзе жыве яе бабуля.

Калядоўшчыкі калектыву «Вярцеп» Культурнага аб'яднання «Паштоўка» з Палічнай (з Польшчы, Украіны, Францыі і Іспаніі), апранутыя ў разнаколерную вопратку, цікава заспявалі калядкі характэрныя для праваслаўя і атрымалі вылучэнне ў катэгорыі старэйшых груп калядоўшчыкаў. Умела калядавалі калектыў «Навіна» з Мельніка, які заняў другое месца ў гэтай катэгорыі і Хор леснікоў Белавежскай пушчы, які атрымаў трэцяе месца. Цікава калядавалі калектыў «Жаваранкі» з Махнатага, калектыў з Чаромхі-Вёскі, «Вульчанкі» з Вулькі-Тэрахоўскай і калядоўшчыкі з Дубін. Спецыяльныя ўзнагароды камісія прызначыла калядоўшчыкам са Спецыяльнага школьна-выхаваўчага асяродка ў Гайнаўцы і калектыву Майстар-класаў па працатэрапіі, які дзейнічае пры Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы. На асабліва высокім мастацкім узроўні запрэзентаваўся Маладзёжны хор Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы, які заняў першае месца ў катэгорыі прыхадскіх хароў і сваім займальным спевам завяршыў гала-канцэрт гайнаўскага калядняга фестывалю.

— Мы стараемся штогод падрыхтаваць новы рэпертуар калядак, якія былі б цікавымі публіцы, — сказаў протадыякан Марк Мацюка, дырыжор Маладзёжна хору гайнаўскага сабора.

Публіка моцна апладзіравала таксама Дзіцячаму хору Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы (заняў трэцяе месца), якога дзейнасцю паспяхова кіруе дырыжор Юстына Марчук. У катэгорыі прыхадскіх хароў цікава запрэзентаваліся таксама хор Успенскага праваслаўнага прыхода ў Боцьках (заняў трэцяе месца), Дзіцячы хор «Шышкін лес» (атрымаў вылучэнне) і Хор «Васклікнавенне» — абодва з Прыхода Нараджэння св. Іаана Хрысціцеля ў Гайнаўцы.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**

---

MOGILEV PRESS

## Магілёўская суполка Беларускай асацыяцыі журналістаў

## http://mogilev.press

Супольнасць незалежных журналістаў у Беларусі — гэта адзін з невялікіх больш-менш трывалых асяродкаў дэмакратыі, якія захаваліся з тых часоў, калі ў краіне яшчэ не было перасьледу за палітычную і грамадскую дзейнасць. Нягледзячы на тое, што непраўладным журналістам ужо не адно дзесяцігоддзе немагчыма дацягнуцца да фінансаваных за кошт падаткаў тэлебачання ці радыё, яны, дзякуючы развіццю інтэрнэту, могуць непадцэнзурна інфармаваць грамадскасць праз разнастайныя сайты.

Каб захоўваць уласную згуртаванасць дзеля адстойвання сваіх правоў, незалежныя журналісты аб'яднаны ў арганізацыю, якая мае назву Беларуская асацыяцыя журналістаў (БАЖ). Суполкі БАЖу дзейнічаюць ва ўсіх рэгіёнах краіны, праўда, не ўсе маюць свае сайты. Аднак пакрысе сітуацыя выпраўляецца. Так, напрыклад, у першым месяцы надышоўшага года ўласны сайт з'явіўся ў магілёўскіх бажаўцаў.

Месяцца новы сайт у інтэрнэце па адрасе **http://mogilev.press** і выглядае даволі прывабна, хоць і незавершана. Пасярэдзіне галоўнай старонкі, акурат пад нешматлікімі рубрыкамі можна пабачыць выяву гарадскога краявіду, на якім вялікімі літарамі напісана: „Магілёўская суполка Беларускай асацыяцыі журналістаў". Зразумела, што адразу хочацца прачытаць пра яе, аднак пакуль гэтага зрабіць немагчыма, бо ў рубрыцы „Пра суполку" такая інфармацыя адсутнічае. Адсутнасць інфармацыі абумоўліваецца, па ўсім відаць, нядаўнім з'яўленнем сайта.

Затое ў падрубрыцы „Гісторыя", якая месціцца ў той жа рубрыцы, цікаўны карыстальнік можа пазнаёміцца з першым нумарам газеты „Тыднёвік Магілёўскі", які з 1997 года выдаваў першы старшыня магілёўскіх бажаўцаў Генадзь Суднік. Калі на даным сайце і надалей будуць размяшчацца перыядычныя выданні мінулых гадоў, то ён можа стаць крыніцай ведаў для тых, хто цікавіцца як гісторыяй Магілёўшчыны, так і гісторыяй яе журналістыкі.

Як і належыць журналісцкаму сайту, на ім прысутнічаюць навіны. Яны таксама месцяцца ў рубрыцы „Пра суполку". Іх анонсы знаходзяцца і на галоўнай старонцы. Навінныя паведамленні, а іх пакуль нямнога — усяго тры, тычацца выключна жыцця суполкі.

У рубрыцы „Журналістам" распавядаецца пра перавагі сяброўства ў БАЖы. Сярод іншага патэнцыйным сябрам арганізацыі распавядаецца пра тое, што, уступіўшы ў яе, яны могуць разлічваць на аператыўную падтрымку і дапамогу калег у выпадку парушэння прафесійных правоў альбо ў іншых сітуацыях, якія патрабуюць рэакцыі альбо ўмяшальніцтва з боку шырокай грамадскасці — як у Беларусі, так і за мяжой. У той жа рубрыцы змешчана інфармацыя, як уступіць у БАЖ.

Сайт магілёўскіх журналістаў распавядае таксама пра падзеі, якія так ці інакш могуць быць цікавымі не толькі журналістам, але і іншым людзям. Так, у рубрыцы „Артыкулы" можна даведацца пра тое, што БАЖ правёў у Магілёве канферэнцыю па камп'ютарнай бяспецы, а грамадскія актывісты арганізавалі ток-шоў пра тое, як змагацца з расійскай прапагандай.

Калі ў цікаўнага карыстальніка ўзнікнуць пытанні пра суполку альбо сайт, то ён знойдзе патрэбныя кантакты ў аднайменнай рубрыцы. Там, у прыватнасці, пазначаны тэлефон і электронная пошта старшыні суполкі Барыса Вырвіча.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

---

Дата з календара

## 150 гадоў з дня нараджэння

# Адама Гурыновіча

Беларускі паэт, фалькларыст, удзельнік дэмакратычнага руху Адам Гіляры Гурыновіч нарадзіўся 25 студзеня 1869 г. у фальварку Кавалькі Вялейскага павета (цяпер Мядзельскі раён Мінскай вобласці). Яго бацька Каліст Гурыновіч паходзіў з роду пятнаццатага стагоддзя гербу „Праўдзіц". Іх продкі былі выхадцамі з Аравіі, татарамі-мусульманамі і раней мелі прозвішча Гурын. Маці Адама Гурыновіча паходзіла з вядомага гетманскага роду Сіняўскіх.

Адам рана асірацеў, бацька памёр, калі хлопчыку было толькі сем гадоў. У 1879-1887 гг. Гурыновіч вучыўся ў Віленскім рэальным вучылішчы. Разам з братамі і сёстрамі жыў на Пірамонцкім завулку ў Вільні. У 1887-1893 гг. вучыўся ў Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце. З-за хваробы вучоба перапынялася, бо ў снежні 1887 г. ён захварэў на тыф і знаходзіўся ў Аляксандраўскім гарадскім шпіталі. Увосень 1888 г. пачаў заняткі зноў з першага курса.

Адам Гурыновіч у студэнцкія гады праводзіў фальклорна-этнаграфічныя зборы. У 1890 г. пераслаў свае запісы вядомаму навукоўцу Яну Карловічу ў Варшаву. Гэтыя матэрыялы былі выдадзены пазней у 1893 г. у Кракаве. Пэўны час Гурыновіч узначальваў створаны ў 1889 г. нелегальны Гурток моладзі польска-літоўска-беларускай і маларасійскай, які аб'ядноўваў пецярбургскіх студэнтаў і быў звязаны з Георгіем Пляханавым. На фармаванне светагляду Гурыновіча зрабіў уплыў марксізм, а таксама ідэі шляхецкіх рэвалюцыянераў і народнікаў1880-х гадоў, у тым ліку беларускай народніцкай суполкі Гоман.

16 чэрвеня 1893 г. расейскія царскія спецслужбы арыштавалі Гурыновіча ў Вільні, дзе ён збіраўся спаткацца з сяброўкай Станіславай Пяткевіч. Яго даставілі ў Пецярбург, дапытвалі. Адседзеў некалькі дзён у доме папярэдняга зняволення, потым прасядзеў у зняволенні з паўгода ў Петрапаўлаўскай крэпасці. З прычыны хваробы адпраўлены пад нагляд паліцыі ў бацькоўскі фальварак Крыстынопаль.

Пісаў Гурыновіч на беларускай, польскай, расейскай мовах. У паэзіі быў паслядоўнікам Францішка Багушэвіча. Асноўная частка творчасці паэта — беларускамоўныя вершы. Выступаў супраць нацыянальнага ціску і клерыкалізму. Пры жыцці яго паэтычныя творы не друкаваліся, але ў часопісе „Wisła" былі надрукаваны народныя песні, этнаграфічныя матэрыялы. Праца Гурыновіча „Зборнік беларускіх твораў (З Вішнеўскай воласці, Жодзінскай парафіі, Сьвянцянскага павета Віленскай губерні)" была надрукавана ў часопісе Кракаўскай акадэміі навук „Zbiór Wiadomosci do Antropologii Krajowej". Вядомы Гурыновіч і як перакладчык твораў Франко, Ажэшкі, Міцкевіча, Някрасава, Талстога, Пушкіна, Крылова, ды іншых. Упершыню творы Адама Гурыновіча з уступным артыкулам апублікаваў Браніслаў Тарашкевіч у 1921 г. у газеце „Беларускі звон".

Памёр Адам Гурыновіч ад чорнай воспы ў сваім фальварку Крыстынопаль (цяпер на тэрыторыі Вялейскага раёна) 4 лютага (паводле іншых звестак 26 ці 29 студзеня 1894 г.). Паэту было толькі дваццаць пяць гадоў. Пахаваны на Крыстынопальскіх могілках (цяпер могілкі суседняй вёскі Золькі).

У гонар Адама Гурыновіча ў Вялейцы названая вуліца, а ў Мядзелі — завулак. 14 снежня 2007 г. ля вёскі Золькі (Вялейскі раён) на тэрыторыі былога фальварка грамадскасць адкрыла памятны знак (шыльда на камяні, аўтар праекта Анатоль Капцюг) аднаму з пачынальнікаў сучаснай беларускай літаратуры.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# ГІСТОРЫЯ ХІТА **ХАЧУ ДЗЕЎКУ** ГУРТА «ДОБРЫЕ ГРАЙКІ»

Калі паглядзеў я на натоўпы прыгожых нашых беларускіх дзяўчат з Падляшша, якія на выступленні групы «Добрыя грайкі» хорам спяваюць іх тэксты, дык падумаў напісаць пра гэты папулярны гурт. Група паўстала ў 2011 годзе ў Бельску-Падляшскім. Лідар гурту — Хрыстафор Татарчук, вядомы аранжыроўшчык і музычны прадзюсар, вакаліст і аўтар тэкстаў. З ім выступаюць два музыканты — Пётр Татарчук (брат Хрыстафора) ды Павел Пасевіч, якія іграюць на гармоніках і клавішных інструментах. Пік папулярнасці гурт перажывае якраз цяпер.




Першай песняй «Добрых грайкаў» была аўтарская песня «Жонка мая кахана», якая перамагла на Фестывалі «Беларуская песня» ў Беластоку. Як кажа сам Хрыстафор Татарчук, група іграе папулярныя беларускія і ўкраінскія народныя песні, але робіць стаўку на стварэнне ўласных аўтарскіх песень. Як кампазітар і аўтар тэкстаў Хрыстафор мае вельмі многа ідэй, з якімі дзеліцца з аўтарамі тэкстаў. Таму група адкрыта на супрацоўніцтва з беларускімі аўтарамі тэкстаў не толькі з Беласточчыны, але і Беларусі. Варта падкрэсліць, што найбольш актыўным аўтарам тэкстаў з'яўляецца Dj Valdi — Вальдэмар Саковіч, ураджэнец Гайнаўкі, абітурыент беларускай філалогіі. Для групы «Добрые грайкі» ён напісаў такія хіты як «Грайкі спяваюць», «Я тебя люблю», «Танцуем разам», «Дзеўка з Урала», «Вар'ятка», «Зіма, зіма». Аранжыроўкай большасці песень гурта «Добрые грайкі» займаюцца вядомы польскі аранжыроўшчык Dj Sequence — Каміль Міськевіч, Dj Davis — Матэвуш Давідзюк, Данель Балкаванец, а таксама Яраслаў Мураўскі. Іх музычныя аранжыроўкі вядомыя з рынку польскай танцавальнай музыкі. Апрача таго Хрыстафор Татарчук піша і кампануе песні для вядомых польскіх гуртоў м.ін. для такіх груп як «Piękni i Młodzi» і «Extazy». Татарчук мае яшчэ свой польскамоўны праект, які называецца «HI-FI». З гуртом «Добрые грайкі» іграе большасць беларускіх фэстаў і вяселляў на Беласточчыне. Таксама часта выступае на беларускіх дыскатэках і запустах у Беластоку.

У справе песні «Хачу дзеўку» званю Хрыстафору Татарчуку — лідару і вакалісту групы «Добрые грайкі».

**ЮРКА БУЙНЮК**: *— Прывітанне, Хрыстафор! Мы з жонкай былі на запустах і пераканаліся, што сапраўды добра распальваеце публіку сваімі песнямі.*

**ХРЫСТАФОР ТАТАРЧУК**: — Прывітанне, Юрка! Вельмі мне прыемна слухаць.

*— Мне цікава даведацца, як паўстала песня «Хачу дзеўку».*

— Сустрэўся я з Вальдкам Саковічам, які піша песні на беларускай мове, выбралі мы тэму і з'явілася песня.

*— Адкуль інспірацыя для напісання канкрэтна гэтай песні, паколькі Ты спяваеш у гэтай песні, што:*

Я ўжо стары мужчына
Мне патрэба хутка сына
Мне патрэба дужэ бабы
І такія маю справы...

*— А ты ж яшчэ не стары, жывеш не на вёсцы, а ў Беластоку, маеш маладую жонку і дзяцей.*

— Як не глядзець, значная частка нашага беларускага грамадства на Падляшшы гэта перш за ўсё сельскія гаспадары і жывуць на вёсцы. Таксама ў польскім тэлебачанні ідзе вельмі папулярная тэлеперадача «Гаспадар шукае жонку». Я для Вальдка прачытаў напісаны мною на польскай мове тэкст, а Вальдэк пераклаў яго на беларускую мову.

*— А ты адкуль ведаеш беларускую мову? Карыстаешся ёю штодзень, ці размаўляеш толькі на падляшскай гаворцы?*

— Не. Я беларускай мове вучуся толькі дзеля спявання песень.

*— Ты па нацыянальнасці беларус?*

— Не. Я — паляк.

Тэкст песні **«Хачу дзеўку»**
Словы Вальдэмара Саковіча і Хрыстафора Татарчука
Музыка Хрыстафора Татарчука

Я ўжо стары мужчына,
Мне патрэба хутка сына,
Мне патрэба дужэ бабы
І такія маю справы.

*Прыпеў:*
Я хачу харошу дзеўку,
Буду шукаць ад панядзелку. (2 разы)
А ў суботу і нядзелю
На бяседу я паеду

Цэлы час жыву багата,
Дабрадзейства поўна хата.
Маю трактар «Лямбарджыні»,
А ў гаражы «Купер Міні».

*Прыпеў:*
Я хачу харошу дзеўку,
Буду шукаць ад панядзелку. (4 разы)
А ў суботу і нядзелю
На бяседу я паеду.

**Юрка БУЙНЮК**

# 27.01 — 02.02

**(22.03. — 20.04.)** 28-31.01. знойдзеш паразуменне па-над падзеламі. Да 28.01. праб'ешся са сваімі задумамі. Кіпіш энергіяй! Зачаруеш кожнага, хто табе трапіць у вока! Пачатак тыдня — найлепшы час на сустрэчы і любоўныя заваёвы. 25-29.01. пачнеш сабе лішне абяцаць або зарана прыступіш да нейкіх мерапрыемстваў; будзь больш памяркоўным!

**(21.04. — 21.05.)** Мілыя гасціны, прыёмы, урачыстасці, але будзь дыпламатычным. Найбольш часу прысвяці кампанейскаму жыццю. Трымай вока над дзецьмі. Магчымыя сітуацыі поўныя напругі і няўпэўненасці. Будзь асцярожны асабліва на працы. Творчыя інспірацыі. Вернецца табе спакой, раўнавага. Магчымае павышэнне. Будзеш цешыцца тым, што маеш. Пільнуйся ад інфекцый, апранайся адпаведна да надвор'я.

**(22.05. — 22.06.)** 28-31.01. добрыя адносіны з атачэннем. Горача ў спальні (выдатна ў тых, хто стараецца за дзіцятка). Час збірання плёнаў, падагульненняў, але і дробных параз, якія прымусяць цябе да рэвізіі сваіх планаў і напрамкаў. Ты зноў поўны энергіі і запалу, ахвотны да правядзення хуткіх змен. Глядзі на свой пазваночнік, як сядзіш — можа, змяні крэсла.

**(23.06. — 23.07.)** Твая дапамога будзе неацэнная. Паявяцца электрызуючыя весткі. Не кідайся ў абдымкі іншай асобы, калі адчуеш сябе занядбаным. Пазбягай новых фінансавых абавязацельстваў. Не бяры крэдытаў, не пазычай і не абяцай зашмат па зменах, да якіх хтосьці будзе цябе намаўляць. Хоць стаянне ў месцы гэта крок назад! Не еж у спешцы, трымай рукі ў чысціні. Знайдзі час для сябе, пачытай, паслухай музыку ва ўлюбёным закутку.

**(24.07. — 23.08.)** Самотны Леў знойдзе сабе кагосьці цікавага. Больш магчымасцей, каб павысіць свае кваліфікацыі і рэалізаваць наватарскія праекты. Знойдзеш супольнікаў і інвестараў. Калі ты з I дэкады, схадзі да лекара на медабследаванне, у пару адкрыеш пагрозы. Выплывеш на шырэйшыя воды, паддасіся незвычайным здарэнням.

**(24.08. — 23.09.)** 28-31.01. можаш разлічваць на падтрымку сяброў у рэалізацыі сваіх планаў. Не бойся зарызыкаваць. Не вер плёткам і пазбягай тых, што іх распаўсюджвае. Адчуеш вялікую ахвоту пагнацца за прыбыткам, але не паддавайся. Лепшае аўто ці дом не дадуць табе шчасця! Поспехі залежаць будуць ад тваёй працаздольнасці і прыярытэтаў, якім ты будзеш верны.

**(24.09. — 23.10.)** Свет і людзі прыхільныя табе. Шмат можаш здабыць, дзякуючы зычлівым табе людзям і знаёмствам. Шмат спакус, але пільнуйся, асабліва калі маеш пару. Пазбягай таксама прастуджаных асоб. Не апарся і не парэжся. Не рабі нічога супраць закону! Не хапай сарака сарок за хвост, засяродзься на самым важным. Старайся не ўваходзіць у сувязі, якія з'яўляюцца невядома чым — сяброўствам, каханнем ці чым яшчэ іншым.

**(24.10. — 22.11.)** Да 28.01. моцна пазмагайся за сваё. Засяродзься на самым важным. Развівайся і мацуйся. Свае справы паладзіш так, каб як найменш пакутаваць. Дома пара на інвестыцыі, на змены да лепшага, у жыллі. Магчымае саперніцтва з сябрамі — даказванне сваіх заслуг, кампетэнцый ці прафесіяналізму. Як найбольш часу праводзь на адкрытым паветры. Запрасі гасцей дадому, пачастуй сваімі вырабамі.

**(23.11. — 22.12.)** Удалыя негацыяцыі да 28.01. Можа будзеш прыняты ў нейкую элітарную кампанію ці клуб. 28-31.01. зарыентуешся, на каго можаш разлічваць. Не будзь пераканаты ва ўласнай непамыльнасці. Маеш цяпер выдатны густ — плануй змены ў інтэр'еры жылля. Не прымушай сябе да нічога. Не спалучай пачуццяў і грошай. Развітайся прынамсі на нейкі час з тлустымі стравамі і алкаголем.

**(23.12. — 20.01.)** На працы бяры, што хочаш, але дома лічыся з кожным словам. Будзеш баявіты і бескампрамісны. Выказвай свае погляды, але прытым нікога не рань. Старайся не выходзіць з сябе. На гарызонце відаць прэмію, але далекавата. Найбольшы мароз вытрымаеш выдатна, але пры пацяпленні можа дарвацца да цябе інфекцыя.

**(21.01. — 19.02.)** 27-28.01. наважышся на такое, да чаго не меў дагэтуль адвагі. 28-31.01. прыкмеціш і ў пару зловіш найбольш карысныя нагоды. Самотныя і нешчаслівыя Вадалеі зачаруюцца. Вечны ўздыхач убачыць на кругаглядзе новы аб'ект. Заззяеш на прафесійнай сцэне. Пачынай новыя мерапрыемствы. Грашыма не перамайся, пакуль іх хопіць, каб весці цікавае жыццё.

**(20.02. — 21.03.)** Не паддавайся настроям. Можаш адчуваць стому. Добрыя вынікі на працы і ў школе. Але будзеш схільны будаваць замкі на лёдзе. Магчымыя спакуслівыя прапановы рамана, але разваж, ці не можаш зашмат страціць. Папросяць цябе да дапамогі пры чужых дзецях (дзеці будуць да цябе ліпнуць). Адкладзеш крыху грошай; паслухай парад добрага спецыяліста па фінансах. Не пераборшчвай з высілкам, дбай аб канечнасці, сядзь на ачышчальную дыету.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**1.** яма для пахавання памерлых, **2.** будынак для захоўвання збожжа і іншых рэчаў, у якім... вір, **3.** вершаваная двухскладовая стапа з націскам на другім складзе ў... лямблёзе, **4.** важная фігура, не толькі ў картах, **5.** лёс, **6.** лоб, **7.** хвойнае вечназялёнае дрэва з конусападобнай кронай, **8.** першабытная абшчына аб'яднаная сваяцтвам, **9.** рухавік, **10.** салдат, **11.** Барыс, першы расійскі прэзідэнт, **12.** верхняя частка будынка, **13.** Францува, сярэдневяковы французскі сатырык (1494-1553) у... праблеме, **14.** „невясёлы" ўкраінскі абласны горад.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 52 нумара**

Рушчыц, гладзь, пелікан, ікс, Каўказ, абутак, мроя, сталь, арол, зіма, пачын, часаслоў, цунамі.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | 2 | | | | 3 | 4 | | |
| | | | | | 5 | | | | | 6 | |
| | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | 7 | | | | 8 |
| 9 | 10 | 11 | | | 12 | | 13 | | | | 14 |

Рашэнне: **Лепш адзін раз убачыць, чым сто разоў пачуць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока, і **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

(працяг з «Нівы» № 3)

Каля Кастальскай крыніцы ўразіў красамоўны знак. У ледзь прыкметнай капліцы віднела ікона з Адсечанай галавой Іаана Хрысціцеля. У Грэцыі свет старажытных багоў надта тактоўна аддзелены ад сучаснай рэлігіі і жыцця. Ды ўбачыць такое на стаптаным турыстычным шляху да старажытнага духовага цэнтра — як прыказ:

— Не мяшай парадкаў і абрадаў!
І ўсё ўжо добра, усё на месцы.

Сёння міфічная крыніца пераназваная ў гонар прарока Іаана Хрысціцеля.

У залаты, старажытны час ля крыніцы абмываліся паломнікі, пакуль перасеклі муры святога горада і апынуліся на прыступках святыні Апалона. У крыніцы, як у кожнай дэльфійскай з'явы, боскі пачатак. Яе імя ад німфы Касталіі, якая адкінула залёты Апалона і здзейсніла ўцёкі. У момант, калі бог ледзь-ледзь ухапіў німфу, міфічная дзева абярнулася ў азярцо, якое ў хуткім часе праявіла ачышчальныя якасці.

Магчыма, тут прамовіла і справа гігіены, надта важная для старажытных грэкаў.

Дзесьці ад III стагоддзя н. э. сталі верыць у натхняльную моц крыніцы. Да Кастальскай вады цягнулі песняры, гусляры і паэты, які спадзяваліся тут падмацаваць свае творчыя сілы. Абрад заключаўся ў сімвалічным паліванні галавы.

Гэта, спадзяваліся творцы, заклікала паэтычную вену і здольнасць рыфмавання.

Дзвесце гадоў таму галаву тут абмыў Лорд Байран, вялікі фанат і абаронца старажытнай Элады. Свой візіт занёс між паэтычныя радкі «Паэм»:

Choć i ja w Delfach u pustych ołtarzy,
I u twych źródlisk wyschłych, pełnych chwały,
Gdzie wszystko znikło, tylko strumyk gwarzy...*

І я таксама ў Дэльфах, дзе кінуты прастолы,
І ля крыніц прасохлых, помных даўняй славы,
Дзе знікла ўсё, адно ручай бурліць вясёлы...

Сапраўды, хоць у Дэльфах ад часоў Байрана, адкапалі «гісторыю» і наладзілі археалагічны парк, самай трывалай з'явай падаўся ручай, які прабіваецца са скал Парнаса. Цёк — парэшткі Кастальскай крыніцы. Дзякуючы хрысціянскаму пераназванню, сучасныя грэкі вераць у гаючую моц вады. Адтуль згаданая ўжо каплічка.

Я таксама, каб не праваронiць шанцаў на аднаўленне творчых сіл, напілася вадзіцы з легендарнай крыніцы.



Ад месца, дзе бурліць міфічная Кастальская крыніца, віднее аліўны гай

# Дэльфы:
## пуп і вантробы свету!



Сфінкс, дар жыхароў Наксос для святыні Апалона (Дэльфскі музей)



Ля ватыўных дараў Даохаса (Дэльфскі музей)

* * *

Сярод руін, з кожнай прыступкай на гару Парнас, прабуджаўся і прамаўляў краявід. Нешта цудоўнае дзеялася з мазгамі і душой, якія ірваліся выказваць штосьць прыхарошанае, крылатае. Частка нашай кампаніі заядла шукала шчыліны, над якой натхнялася піфія. Славутая расколіна, як даказваюць даследчыкі, знаходзілася ў сярэдзіне святыні Апалона, а больш дакладна ў яго сакральнай зоне, вядомай як адытон. Верагодна, гэтае памяшканне знаходзілася ўжо ў падзямеллі. Старажытныя грэкі верылі, што дар празорлівасці і вяшчунства — ад зямлі і свету памерлых, якія сыходзілі ў падзямелле. У адытоне прабывала адна вяшчунка. На старажытных малюнках яна звычайна выседжвае на высокім, трохногім століку. Увайсці ў вяшчунскі транс апрача газаў са шчыліны дапамагаў ёй дым з паленых лаўровых лісткоў.

Пра пахі ў адытоне піша згаданы ўжо Плутарх. Ён дастаецца з крыніцы, якая знаходзіцца пад памостам адытону і напамінае салодкую парфуму. Самы вялікі згустак прыемнага паху назіраецца ў часы залатой славы Дэльфаў. У гады Плутарха, пра што з жалем адзначае старажытны пісьменнік і дэльфійскі жрэц Апалона, боскі пах губляе ранейшую інтэнсіўнасць і паступова нікне. Гэта прыводзіць да сумных высноў наконт будучыні цэнтра і ролі дэльфійскай вяшчункі. Бо ўся сіла ў вадзе!

Гісторыя месца замкнецца ў метафізічным круг, калі сама піфія абвесціць сваю канчыну. Яна прыйдзе, калі высахне крыніца.

Сёння на месцы магутнай святыні тырчаць калоны з чорнага мармуру. Сімвалічная рэканструкцыя ўсведамляе веліч і значэнне будынка. Прастору часткова засцілае памост з каменных пліт. Нідзе следу па шчылінах, вадацёках...

Пэўнае святло на міф дэльфійскай крыніцы з боскім пахам кінулі геолагі і хімікі. Аказалася, што святыня Апалона ўзведзена на сутыку двух тэктанічных пластоў. Між імі сапраўды знаходзілася крыніца, насычаная ў этылен. Той газ, з дапамогай якога сёння ўсыпляюць хворых перад цяжкай хірургічнай аперацыяй.

Пра згаданыя навінкі загаварылі толькі напрыканцы XX стагоддзя.

* * *

У Дэльфах, як нідзе на свеце, хацелася думаць пра духовыя крыніцы палешукоў Падляшша. Наш народ бясспрэчна верыць у моц святой вады і гаючых крыніц, якіх лік на здзіў расце з кожным годам. Літаральна на вачах нараджаецца культ крыніцы ў Мякішах. Самая вядомая — Крыначка ў Белавежскай пушчы, да якой паломнічаюць тысячы жыхароў прыпушчанскіх вёсак і мястэчак.

Таксама ў народзе працвітае абрад асвячэння вады. У рэгіёне найбольш ачышчальнай і гаючай лічаць ваду, асвечаную на Вадохрышча. Хрысціянскі свет успамінае пры нагодзе Іаана Хрысціцеля, які сваім жыццём і смерцю вяшчаў надыход хрысціянства. Карацей, сімволіка хрысціян пабудаваная на вадзе.

Таму ікона з адсечанай галавой хрысціянскага прарока ля міфічнай хоць і пераназванай крыніцы прамовіла як непазбежная і нахабная паслядоўнасць перамен.

Яны высвятліліся ў дэльфійскім музеі, дзе выстойвалі старажытныя багі і героі з адбітымі галовамі.

Праўда, да гібелі святога горада і яго багоў найбольш спрычыніўся землятрус.

(працяг будзе)

Тэкст і фота
**Ганны КАНДРАЦЮК**

* Прыведзены фрагмент у перакладзе Яна Каспровіча на польскую мову з тома „Poemata", выдадзенага ў 1895 годзе. Пераклад на беларускую — Г. К.

ISSN 0546-1960 04